наша
# свабода

№33(260) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

25 САКАВІКА
2002 году
ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 2100-253, факс 2100-254

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

## Збілі журналіста

23 сакавіка ў Брэсцкую абласную бальніцу з пераломам ніжняй сківаці і шматлікімі ўдарамі шпіталізаваны карэспандэнт радыё «Свабода», намеснік галоўнага рэдактара тыднёвіка *«Брестский курьер»* Алег Супрунюк. Яму зроблена аперацыя ў аддзяленні сківічна-тварнай хірургіі. На целе журналіста зафіксаваны шматлікія ўдары і сінякі; унутраных пашкоджанняў пакуль не выяўлена. Як мяркуюць урачы, у бальніцы пацярпеламу давядзецца правесці не менш за два тыдні, а лячэнне працягнецца каля месяца.

Як паведаміў А.Супрунюк, яго збілі трое невядомых мужчын без ніякіх тлумачэнняў яшчэ тыдзень таму, вечарам 17 сакавіка. Паводле словаў журналіста, ён адразу адчуў сябе кепска, але не стаў звяртацца ні да доктара, ні ў міліцыю, бо наступнага дня павінен быў ехаць на семінар у Вільнюс з групай калегаў, прычым менавіта на яго імя была адкрыта групавая віза. Цяпер жа пісаць заяву ў міліцыю журналіст не стаў, паколькі лічыць, што шукаць людзей, якія яго збівалі, праз тыдзень – марная справа. А.Супрунюк не звязвае здарэнне са сваёй прафесійнай дзейнасцю. Ён лічыць, што гэта былі «звычайныя хуліганы».

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## За чысціню грошай

Нацыянальны банк звярнуў увагу банкаў і іншых юрыдычных асоб на неабходнасць ачышчаць наяўны грашовы абарот ад моцна брудных, ірваных, склееных і поўнасцю зношаных банкнотаў.

Як паведаміў БелаПАНу прэс-сакратар Нацбанку Міхаіл Журавовіч, у спецыяльна падрыхтаваным наконт гэтага лісце кіраўнікам юрыдычных асоб і банкаў рэкамендавана арганізаваць рэгулярнае правядзенне з касірамі вучобы па правільнай рабоце з гатоўкаю, а таксама па вывучэнні пераліку прыкметаў плацёжнасці банкнотаў.

У лісце падкрэсліваецца, што касірам юрыдычных асоб у абавязковым парадку неабходна сартаваць гатоўку на прыдатныя для абарачэння і зношаныя банкноты. Рэшту грошай пакупнікам выдаваць толькі прыдатнымі, а зношаныя – адсартоўваць, у абарачэнне не выпускаць і здаваць з інкасаванай выручкай у банк. Адпаведныя патрабаванні выкладзены і для касавых работнікаў банкаў.

Неабходнасць такога сартавання гатоўкі звязана яшчэ і з тым, што з пашырэннем рынку банкаўскіх паслуг у краіне ўводзяцца пластыкавыя карткі і банкаматы, пры выкарыстанні якіх узрастае патрэбнасць у прыдатных да ўжытку, чыстых банкнотах.

**Аляксей АРЭШКА**




# Дзень Волі і сваволі


Фота Ул.ШЛАПАКА

*У гэтым годзе ніхто не падаваў заяўкі на правядзенне мітынгу і шэсця на Дзень Волі – свята ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі.*

Грамадская камісія па арганізацыі святкавання вырашыла абмежавацца ў Мінску ўскладаннем кветак да помнікаў Янку Купалу і Якубу Коласу, апагеем святкавання меў стаць агульны спеў малітвы «Магутны Божа», прапанаванай як варыянт нацыянальнага гімну.

Адпаведна з гэтым сцэнарам у парку, дзе стаіць помнік Купалу, а 12-й сабраўся народ, над ім луналі, як заўжды, з дзесятак бел-чырвона-белых сцягоў, але не было звыклых для такіх мерапрыемстваў палымяных прамоваў, святочна граў гармонік, некалькі параў танчылі, вядомыя салісты з рок-гуртоў NRM і «Уліс» спявалі без мікрафонаў. Панавала, можна сказаць, ціхая нуда.

*Заканчэнне на стар.3*

# Лішні

## *Пуцін аддае перавагу «галушкам» Кучмы перад «дранікамі» Лукашэнкі*

*Ці часта апошнім часам беларускі прэзідэнт праводзіў двухбаковыя сустрэчы на найвышэйшым узроўні? Хоць бы ў рамках СНД? На першы погляд пытанне дзіўнае.*

Бо яшчэ на пачатку сакавіка Лукашэнка браў удзел у нефармальным саміце кіраўнікоў дзяржаваў СНД, які адбыўся на гарнальнай базе Чымбулак у Казахстане. Здавалася б, якраз на гэтым прадстаўнічым мерапрыемстве А.Р. уволю пасаймаваўся з іншымі прэзідэнтамі.

### Праходзьце міма

Па сваіх каналах нам удалося высветліць, што, акрамя пратакольных агульных сустрэч, асабіста і прыватна А.Р. ні з кім не кантактаваў. Падобная некантактнасць Лукашэнкі наўрад ці звязана з яго нежаданнем сустракацца тэт-а-тэт і «без гальштукаў». Хутчэй гэта непасрэдная наступства ператварэння А.Р. у абсалютна нецікавага персанажа для вялікай «садружнасьнай» палітыкі.

Адзначым такую дэталь, не пазбаўленую цікавасці. На другі дзень саміту Лукашэнка спрабаваў быў застацца «для катання на лыжах» разам з расійскім прэзідэнтам Пуціным і казахскім лідэрам Назарбаевым. Але «супольнага катання» не атрымалася. Расійска-казахскай VIP-двойцы не патрэбна была прысутнасць трэцяй асобы. А таму А.Р. мусіў імкліва рэціравацца ў аэрапорт. Такая рэальнасць. Лукашэнка апошнім часам практычна не бярэ чыннага ўдзелу ў абмеркаванні перспектыўных праектаў у рамках СНД. Апрача таго, А.Р. ужо даўнавата не выступаў з ініцыятывамі, якія заслугоўвалі б колькі-небудзь выразнага каментару ў СМІ краін Садружнасці. Не дзіва, што і «казахскі» вояж Лукашэнкі абышлі маўчаннем усе без выключэння СМІ Расіі. Але тыя ж СМІ адвялі шмат месца абмеркаванню вынікаў асабістых сустрэч Пуціна з Шэварднадзе, Варонінам, Кучмам, Акаевым, Назарбаевым і г.д.



Лукашэнка не мае грунтоўных камунікацыяў з прэзідэнтамі краін СНД. Гэта факт. Але наўрад ці самотнасць А.Р. можна лічыць зморваю першых асобаў СНД. Стасункі паміж лідэрамі краінаў-удзельніц Садружнасці досыць няпростыя. Дастаткова згадаць тую напружанасць, што існуе паміж прэзідэнтамі Арменіі (Р.Качаран) і Азербайджану (Г.Аліеў), а таксама паміж лідэрамі Расіі і Грузіі. Аднак вялікая палітыка патрабуе перадусім асабістых зносінаў. Прэзідэнты дамаўляюцца, абмяркоўваюць праблемы.

*Заканчэнне на стар.5*

Падпісны індэкс НАШАЙ СВАБОДЫ 63478

**ВЕСТКІ**

## Учора Вербніца, ад сёння – пост



Каталіцкія вернікі Беларусі адзначылі ўчора Вербніцу. У касцёлах за ўсяночнай ксяндзы свянцілі галінкі вярбы – сімвал пальмавых, з якімі ўсхваляваны народ Іерусаліма сустракаў уваход Езуса Хрыста ў горад.

А з панядзелка – выключна строгі пост на ўспамін апошніх дзён зямнога жыцця, пакутаў, смерці і пахавання Святога заступніка і збаўцы.

## Варшава папярэджвае загадзя

27-28 сакавіка ў Варшаве адбудуцца беларуска-польскія кансультацыі на ўзроўні консульскіх службаў міністэрстваў замежных спраў Беларусі і Польшчы. Як паведаміў прэс-сакратар МЗС Беларусі Павел Латушка, падчас кансультацый будуць абмеркаваны пытанні, звязаныя з увядзеннем з 1 ліпеня 2003 году Рэспублікай Польшча поўнамаштабнага візавага рэжыму ў адносінах да Рэспублікі Беларусь. П.Латушка падкрэсліў, што кансультацыі пройдуць па ініцыятыве польскага боку.

## Бясчынствуюць вандалы

У Полацку ўчынены беспрэцэдэнтны па сваіх маштабах і жорсткасці акт вандалізму. На могілках, якія знаходзяцца ля мясцовай мэблевай фабрыкі, поўнасцю разбураны 85 помнікаў, у тым ліку і помнік героям-вызвалецелям Полацку. Асобы, якія ўчынілі акт вандалізму, пакуль не ўстаноўлены.

## У інтэграцыі ўспыхне «вайна законаў»

Старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Расіі Аляксандр Вешнякоў лічыць малаверагодным правядзенне ў бягучым годзе выбараў у парламент Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. «Верагоднасць гэтага зусім нязначная», – заявіў ён 22 сакавіка ў Архангельску (Расія) на сустрэчы з прадстаўнікамі рэгіянальнай улады і грамадскасці. На думку старшыні расійскага ЦВК, праблема не ў законе аб выбарах парламенту, які ўжо прыняты ў першым чытанні, а ў тым, што няма палітычнага рашэння аб правядзенні выбараў, не вызначаны паўнамоцтвы, якімі будзе валодаць парламент. У выніку можа пачацца так званая «вайна законаў», якая здарылася была на пачатку 1990 году.

**НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»**

**1740**

# Дзень Волі і сваволі

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*


Фота Ул.ШЛАПАКА

У 13 гадзін натоўп прыкладна з 1,5-2 тысячаў чалавек праспяваў «Магутны Божа», што на адкрытай прасторы і пры слабым знаёмстве з музыкай атрымалася не дужа ўражліва.

Усё змянілася, калі людзі сабраліся ісці на плошчу Коласа. Частка парку, што мяжуе з праспектам Скарыны, проста на вачах пачала зарастаць шэрагамі амонаўцаў, на рагу праспекту і вуліцы Янкі Купалы шыкаваліся міліцыянты ў касках, з дубінкамі і шчытамі. Выхад са скверу таксама быў заблакаваны, і міліцэйскі падпалкоўнік аб'яўляў у мегафон, што выходзіць трэба каля мосту цераз Свіслач. Удзельнікі свята калонай пасунуліся па алеі. У гэты час пачалося хуткаснае перамяшчэнне амонаўцаў – і хлусліва акрэслены выхад аказаўся перагароджаны шчыльнымі шыхтамі АМОНу. І вось у адказ на падман і здзек людзі наноў пачалі спяваць «Магутны Божа». Гэтым разам нацыянальны гімн гучаў з годнай энергіяй. На свята ў парк шмат хто прывёў дзяцей. Цяпер дзеці сталі напалоханыя, не разумеючы, чаму дзядзькі з дубінамі не выпускаюць іх з парку. А да парку пад'язджалі ўсё новыя аўтобусы з амонаўцамі, і здаровыя дзецюкі ў карычневым камуфляжы несліся ўмацоўваць свой жывы паркан. Шчытаносцы закрылі выхад з парку і каля музею Купалы. Пасля перамоваў з міліцыяй, якая патрабавала згарнуць сцягі, калона, паменеўшы, пайшла па праспекце ў бок помніка Якубу Коласу. За плошчай Перамогі яе сустрэў спецаддзел камуфляжнікаў у касках і пры шчытах. Нейкі час міліцыя не рухалася, відаць, чакала загаду. Такі загад паступіў, бо пад'ехала пяць аўтобусаў з міліцэйскай дапамогай, і тады «ахоўнікі парадку» атачылі людзей колам у дзесяць шэрагаў, пачалі сціскаць і праз свой «жывы калідор» уцягваць мужчын і жанчын у аўтобусы. Пачаліся сутычкі, аднаму з удзельнікаў акцыі зрабілася кепска.



Хоць у «аўтазэках» вокны напалову закрывалі белыя фіранкі, было бачна, як затрыманых проста кідаюць па салоне. З вялікай хуткасцю загрузілі болей за 50 чалавек. Былі затрыманыя і некалькі журналістаў: фотакарэспандэнт інфармацыйнай кампаніі *Reuters*, супрацоўнік радыё «Рацыя». Праўда, журналістаў адпусцілі.

Дайсці да помніка Якубу Коласу ўдалося некалькім дзесяткам. Яны ўсклалі да манумента народнага песняра кветкі, прапялі некалькі песень і таксама былі затрыманыя супрацоўнікамі міліцыі.

Дзень Волі ператварыўся ў дзень сваволі беларускай улады. У кожнага свая радасць.

Калі хто да гэтага дня яшчэ меў ілюзіі, што жорсткасць міліцыі – рэакцыя на непаслухмянасць апазіцыі, дык цяпер ён мусіць страціць іх назаўжды. Мінская міліцыя старанна падрыхтавала свае падраздзяленні, аўтобусы, шчыты і каскі, папярэдне заняла вызначаныя месцы. Не было ніякай падставы блакаваць выхады з парку, суправаджаць некалькі соцень людзей паўтысячнымі сіламі міліцыянераў, тым больш не было прычыны затрымліваць і прымяняць фізічную сілу. Усё гэта справядліва ўспрымаецца як здзек уладаў з грамадзянскіх правоў, як непрыхаваны тэрор.



Здаецца, Дзень Волі ненавісны ўладзе самой сваёй назвай. І як ні святкуй – будзеш у ейных вачах злачынцам.

**Канстанцін МАТУСЕВІЧ**




Фота Ул.ШЛАПАКА

**Як паведаміў учора інфармацыйны аддзел праваабарончага цэнтру «Вясна», сярод затрыманых былі:**

**у Мінску**

1. Герасімаў Валеры
2. Саўка Уладзіслаў (13 гадоў)
3. Саўка Зміцер
4. Кійко Рыгор
5. Кійко Наталля
6. Бандарэнка Зміцер
7. Ягорава Ганна
8. Дранчук Цімафей
9. Новік
10. Ягораў Андрэй
11. Зянькові Юрась
12. Ляховіч Андрэй
13. Сіўчык Вячаслаў
14. Севярынец Павел
15. Шчукін Валеры
16. Пікуль Яўгенія
17. Пальчэўскі Юрась
18. Прасаловіч Анатоль
19. Носаў Дзяніс
20. Лысакоў Сяржук
21. Зайкоўскі Эдвард
22. Карпенка Зміцер
23. Некрашэвіч Эля
24. Ваюшына Валянціна
25. Ахрэмчык Аксана
26. Ачапоўскі Лявон
27. Смольскі Аляксей
28. Ігнатовіч Уладзь
29. Гвоздзеў Сяргей
30. Гвоздзеў Міхась
31. Шэршань Ірына
32. Пярцоўскі Аркадзь
33. Лавіцкі Мікола
34. Таўстко Андрэй
35. Яловая Таццяна
36. Кшык Пётр
37. Ярмоленка

**у Гродне:**

1. Хадыка Юры
2. Мальчык Сяргей
3. Саранчукоў Вадзім (абвінавачваюць у арганізацыі акцыі)
4. Сазонаў Віктар
5. Лугін Яўген
6. Дзьмухоўскі Эдвард
7. Іваноўскі Зміцер
8. Нех Святлана
9. Патрэба Міхаіл
10. Гом Мікола
11. Завадскі Алег
12. Лапеха Ігар
13. Сідлярэвіч Алена
14. Станкутэ Рэгіна
15. Шустоўскі Андрэй
16. Пачобут Андрэй
17. Рамашка Раман
18. Лемяноўскі Мікола (абвінавачваюць у арганізацыі акцыі)
19. Шабунька Яўген
20. Кучар Аляксей

***Абодва спісы няпоўныя і зараз удакладняюцца.***

# У Гродне затрыманы 20 чалавек

24 сакавіка ў Гродне адбылася несанкцыянаваная вулічная акцыя, прысвечаная Дню Волі. Міліцыя затрымала прынамсі 20 чалавек. Сярод затрыманых намеснік старшыні БНФ Юры Хадыка і старшыня Сялянскай партыі Яўген Лугін.

А 12-й гадзіне ў старым гарадскім парку імя Э.Жылібера сабраліся некалькі соцень чалавек. Улады сход у парку не дазволілі. Яны прапанавалі зрабіць яго ў Доме культуры «Юнацтва». Міліцыя заблакавала ўсе выхады з парку. Сабраныя разгарнулі бел-чырвона-белыя сцягі і пачалі прамаўляць праз мегафон. Сярод прамоўцаў былі і Ю.Хадыка з Я.Лугіным, якіх міліцыя схапіла першымі яшчэ ў парку.

Чалавек 400 рушылі з парку, каб ускласці кветкі да шыльды паўстанцам Тадэвуша Касцюшкі. Міліцыя паставіла на выхадзе патройны кардон – каля 100 чалавек. Іншыя выхады таксама заставаліся перакрытымі. Людзям удалося выйсці паасобку. Каля аблыванкаму на вул. Элізы Ажэшкі яны праскандавалі «Ганьба!», «Жыве Беларусь!» і «Радзіма, свабода...». На шляху людзей міліцыя тройчы перакрывала вуліцу Савецкую, увесь час перагрупоўваючы сілы. Затрымліваць пачалі аднаго за адным. Сярод затрыманых кіраўнікі гродзенскіх арганізацый: В.Сазонаў – БСДГ, М.Патрэба – Народнай Грамады, В.Саранчукоў – Маладога Фронту, С.Мальчык – БНФ.

Каля 100 чалавек дайшлі да Новага замка, на муры якога ўмацавана памятная дошка, прысвечаная паўстанцам Т.Касцюшкі. Да яе ўсклалі кветкі.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Выкінулі з вучобы

Аляксандра Паўловіча і Аляксандра Каліту адлічылі з трэцяга курсу Магілёўскага політэхнічнага тэхнікуму.

Рашэнне аб выключэнні было прынятае 20 сакавіка 2002 году адміністрацыяй навучальнай установы са згоды камісіі па справах непаўналетніх Ленінскага раёну г. Магілёва.

Аляксандр Паўловіч і Аляксандр Каліта – актывісты руху моладзі «Зубр». Нагадаем, Аляксандра Паўловіча суд Шклоўскага раёну 14 сакавіка прызнаў вінаватым па крымінальнай справе аб «публічнай абразе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, г.зн. злачынстве, якое прадугледжваецца часткай 1 артыкулу 368 КК Рэспублікі Беларусь». Непаўналетні Аляксандр быў аштрафаваны на 20 мінімальных заробкаў.

Аляксандр Каліта за сваю палітычную актыўнасць (распаўсюджванне друкаванай прадукцыі і агітацыйных матэрыялаў падчас перадвыбарнай кампаніі) неаднаразова прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці.

**ІА ПЦ «Вясна»**

# Прафсаюзы адмовіліся пратэставаць

28 сакавіка Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі не збіраецца праводзіць мітынг на плошчы Бангалор у Мінску. Замест гэтага прафсаюзы правядуць адкрыты прафсаюзны сход на пляцоўцы перад Домам прафсаюзаў.

У заяўцы на правядзенне мітынгу 28 сакавіка ў Мінску ФПБ прасіла тры іншыя месцы для акцыі «Не – росту цэнаў! За дастойнае жыццё і правы працоўных»: на плошчы Парыжскай камуны, на пляцоўцы каля стадыёну трактарнага заводу альбо перад Палацам прафсаюзаў на вуліцы Мельнікайтэ. Атрымаўшы адмову з Мінгарвыканкаму, прафсаюзныя босы не пайшлі на канфлікт з гарадскімі ўладамі.

«Мы разумеем, што ў адпаведнасці з дэкрэтам прэзідэнта нават разавае парушэнне ўстаноўленага парадку правядзення шэсцяў, мітынгаў пагражае закрыццём арганізацыі, – такім чынам, рызыкаваць мы не можам. На прэзідыуме ФПБ мы дамовіліся, што адзіны дзень прафсаюзных дзеянняў у Мінску пройдзе ў форме адкрытага прафсаюзнага сходу на пляцоўцы каля Машэрава, 21 з прыцягненнем усіх, хто захоча прыйсці да нас, з радыёфікацыяй вакол будынка, з абмеркаваннем праблем эканомікі, развіцця сацыяльнай сферы і выпрацоўкай патрабаванняў да ўраду», – заявіў старшыня ФПБ Франц Вітко.

Такім чынам, «афіцыйныя» прафсаюзы канчаткова распісаліся ў сваёй няздольнасці змяніць існуючы стан рэчаў.

**Рыгор БУЯН**

# Чыгіра будуць судзіць зноў

22 сакавіка былы прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір азнаёміўся з матэрыяламі крымінальнай справы па абвінавачанні яго ў няпоўнай выплаце падаткаў і халатнасці. Расследаванне вяла следчая група Следчага камітэту пры МУС Беларусі. М.Чыгір і яго абарона маюць намер неўзабаве падаць хадайніцтва аб спыненні крымінальнай справы ў сувязі з адсутнасцю ў яго дзеяннях склада злачынства.

Крымінальны пераслед былога прэм'ер-міністра цягнецца ўжо амаль тры гады, з красавіка 1999 году.

Восем месяцаў М.Чыгір правёў у следчым ізалятары, пасля чаго ў траўні 2000 году адбыўся суд. М.Чыгір быў абвінавачаны ў перавышэнні службовых паўнамоцтваў. Мінскі гарадскі суд прыгаварыў яго да трох гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду на два гады. М.Чыгір абскардзіў прысуд у Вярхоўным судзе, які адмяніў прысуд і накіраваў справу на новае расследаванне.

У выніку М.Чыгіру было прад'яўлена новае абвінавачанне – у няпоўнай уплаце падаходнага падатку з зарплаты, наўмысным утойванні даходаў і ўхіленні ад уплаты падаткаў падчас яго працы кіраўніком прадстаўніцтва нямецкай фірмы «Гея» ў Маскве. Аднак, як патлумачыў БелаПАНу М.Чыгір, падчас працы ў нямецкай кампаніі ён не жыў у Беларусі і не павінен быў тут плаціць ніякія падаткі.

Яшчэ адзін эпізод – крадзяжы ў асабліва буйных памерах, нібыта ўчыненых падчас будаўніцтва новага будынка «Белаграпрамбанку» і выдзялення на гэтыя мэты авансавага плацяжу ў суме 1 мільёна даляраў ЗША канадскай будаўнічай фірме – быў перакваліфікаваны следствам. М.Чыгір быў абвінавачаны ў службовай халатнасці.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# Беларусы «з прабіркі»

*Кожная пятая сямейная пара ў свеце лічыцца бясплоднай. Але гэта яшчэ не значыць, што дзяцей у іх не можа быць увогуле, проста патэнцыйна ў гэтую групу трапляюць усе пары, у якіх за год актыўнага палавога жыцця цяжарнасць так і не наступіла. А прычыны гэтага могуць быць самыя розныя: ад простай несумяшчальнасці партнёраў да адсутнасці ў жанчыны маткі або ў мужчыны – сперматазоідаў.*

У Беларусі статыстыка прыкладна такая ж, але пры цяперашняй дэмаграфічнай сітуацыі актуальнасць гэтай праблемы куды вышэйшая. Толькі тры цэнтры па ўсёй краіне займаюцца яе вырашэннем: адзін у Гомелі і два ў Мінску – на базе 1-ай і 7-ай клінічных бальніцаў.

Цэнтр на базе 7-ай бальніцы быў заснаваны як філіял Чыкагскага інстытуту рэпрадукцыйнай генетыкі, аднак цяпер ён пазбавіўся сваёй лабараторыі, таму саму працэдуру інсемінацыі пацыентам там ужо не робяць. Дзеля гэтага ім даводзіцца ехаць на Кіпр.

У Гомелі робяць усё, і кошты там таннейшыя, аднак эфектыўнасць такой працэдуры адпаведна меншая – каля 20%, гэта значыць, што дапамагаюць толькі адной з пяці параў, якія да іх звяртаюцца; тым часам у сярэднім па еўрапейскіх клініках медыкі ўжо дасягаюць 26%, а ў самых моцных клініках – нават 35-45%.

Прыкладна такая ж эфектыўнасць і ў цэнтры «Эмбрыо»: з 78 параў, што звярнуліся па дапамогу з мінулага лета, у 28 ужо чакаюць дзяцей. Аднак і кошты ў іх па беларускіх мерках немалыя: напрыклад, за працэдуру ЭКА – каля 2 тысяч даляраў разам з лекамі. І столькі каштуе толькі адна спроба зацяжарыць, а іх можа быць некалькі. Лічыцца, што з-4 спробаў, каб зацяжарыць, 70% жанчынаў дастаткова, а калі гэта не дало вынікаў, то барацьба з прыродай можа зацягнуцца на доўгія гады.

Трэба быць досыць заможным беларусам, каб дазволіць сабе такое лячэнне. Амерыканцу ці немцу за яго давядзецца выкласці на радзіме 5-12 тысяч даляраў, аднак нават ім гэта не заўсёды па кішэні. Таму першыя 3-4 спробы ім дапаможа аплаціць медычная страхоўка. У тым жа Ізраілі, напрыклад, дзе дэмаграфічныя пытанні – частка дзяржаўнай палітыкі, для сваіх грамадзянаў на гэтыя працэдуры прадугледжаны значныя зніжкі.

Першае «дзіця з прабіркі» нарадзілася на свет толькі ў 1978 годзе, хоць сама ідэя штучнага апладнення з'явілася яшчэ ў 1930-ых гадах. Для апладнення ўжываюцца розныя метады ў залежнасці ад таго, чым выклікана бясплоднасць. У большасці выпадкаў справа ў жанчыне: яна можа не мець маткі альбо яечнікаў ці мець непраходнасць матачных трубаў. Раней медыкам даводзілася рабіць хірургічныя аперацыі на той жа шыйцы маткі, аднак яны дапамагалі зацяжарыць толькі 17-ці працэнтам жанчынаў. Самым новым і дасканалым метадам зараз лічыцца экстракарпаральнае апладненне (ЭКА), якое дазволіла жанчынам пазбавіцца хірургічнага ўмяшальніцтва ў свой арганізм. Жаночую яйцаклетку апладняюць у лабараторных умовах – як кажуць, «у прабірцы», а потым, праз 2-3 дні назірання ў лабараторыі, вяртаюць у арганізм жанчыны. А калі яна там прыжывецца, то далей цяжарнасць працякае як звычайная. Большасць такіх цяжарнасцяў сканчваюцца кесаравым сячэннем, аднак толькі таму, што сярэдні ўзрост параў, якія звяртаюцца да медыкаў, 34-36 гадоў, калі нараджаць самастойна жанчыне ўжо небяспечна, а адсутнасць дзяцей паступова пераходзіць у пагрозу не займець іх ніколі.


Фота Ул.ШЛАПАКА

Часта здараюцца выпадкі, калі жанчына і мужчына абсалютна здаровыя, але разам яны не могуць мець дзяцей. Жаночы арганізм проста адрынае сперму пэўнага мужчыны, выпрацоўваючы на яе адмысловыя антыцелы.

Бывае, што «вінаваты» ў адсутнасці дзяцей у сям'і мужчына: у 1 мл спермы здаровага мужчыны павінна быць да 50 мільёнаў сперматазоідаў, і норма ёсць, калі палова з іх нікуды няварты. А здараецца так, што жывыя толькі 2-3, – і тыя ледзьве варушацца. Тады даводзіцца літаральна адлоўліваць кожнага і прымусова спарваць з жаночай яйцаклеткай.

Калі ў мужа зусім безнадзейная сітуацыя – няма ніводнага сперматазоіду нават у яечніках – ужываюць сперму донара. У Беларусі банку спермы няма, таму нашыя медыкі адмыслова закупляюць яе ў Расіі і ва Украіне. Абы-хто донарам быць не можа. Адбор прэтэндэнтаў досыць строгі: па ўзросце (25-40 год), ніякіх венерычных, псіхічных, анкалагічных захворванняў, туберкулёзу і нават судзімасці. Таму праходзіць яго менш за 1% мужчынаў. Каб выключыць магчымасць розных хваробаў, сперму замарожваюць і вытрымліваюць пры тэмпературы мінус 180 градусаў не менш за паўгода. І толькі потым яе можна ўводзіць у матку – гэта так званая ўнутрымаатачная інсемінацыя. Па сутнасці, гэта самы просты метад, які ўжо вядомы людзям гадоў дзвесце.

Больш за 400 тысяч дзяцей па ўсім свеце народжаны з выкарыстаннем метадаў дапаможнай рэпрадукцыі. У многіх краінах, такіх як Галандыя, Данія, Бельгія ці Ізраіль, колькасць так званых «дзяцей з прабіркі» штогод дасягае 1% ад усіх немаўлятак. У Беларусі дакладную колькасць такіх дзетак вызначыць цяжка, бо многія пары доўгі час выязджалі лячыцца за мяжу. З упэўненасцю можна сцвярджаць, што зараз такіх дзяцей не менш за 700. Гэта звычайныя дзеці, якія хварэюць не больш і не менш за іншых.

**Алена ЛАБАНАВА**

# Асаблівасці айчыннага працаўладкавання

*Згодна з афіцыйнай статыстыкай, толькі 2,1% эканамічна актыўнага насельніцтва зарэгістраваныя ў якасці беспрацоўных. Незалежныя эксперты лічаць, што ўзровень беспрацоўя значна вышэйшы.*

## Чые рукі патрэбныя ў сталіцы?

На пачатак гэтага году ў Мінску зарэгістравана трынаццаць з паловай тысяч беспрацоўных. Сярод іх 60,6% – жанчыны, амаль столькі ж моладзі ва ўзросце да 29 год, а кожнаму дзесятаму – няма і 18. Гэта не дзіўна, бо мінулы год быў рэкардсменам па колькасці выпускнікоў школ, і тыя, хто не здолеў нікуды паступіць вучыцца, папоўнілі шэрагі беспрацоўных. 70% беспрацоўных маюць сярэднюю ці няпоўную сярэднюю адукацыю.

Кіроўцаў аўтобусаў ды тралейбусаў, муляраў, цесляроў, зваршчыкаў, слесараў-сантэхнікаў, рамонтнікаў, тынкоўшчыкаў, токараў патрабуецца больш, чым зарэгістравана беспрацоўных. У дэфіцыце – дворнікі, санітаркі, нянькі ў дзіцячыя садкі, прыбіральшчыцы, падсобныя і рознарабочыя.

Ёсць і вакансіі для грамадзян з вышэйшай адукацыяй і вопытам кіраўнічай працы: патрабуюцца інжынеры-праграмісты, канструктары, кіраўнікі рознага ўзроўню.

## Вялікія праблемы малых гарадоў

Вядома, што чым меншы горад, тым менш у ім працоўных месцаў. Напрыклад, у адным мінскім агенцтве, якое займаецца працаўладкаваннем у нашай краіне беларусаў незалежна ад адукацыі, прафесіі і прапіскі, прывялі такія лічбы: да іх звярнуліся па дапамогу сто чалавек з Бабруйску (колькасць насельніцтва – за 200 тысяч чалавек), з Смаргоні – 10 чалавек (18 тысяч насельніцтва). Акрамя дэфіцыту працоўных месцаў, у рэгіёнах і заробак значна меншы за сталічны.



Фота IREX/ProMedia

Для жыхароў райцэнтраў самая вялікая праблема – не знайсці працу, а ўладкавацца на яе. Калі, напрыклад, жыхар Стоўбцаў патэлефануе ў аддзел кадраў аўтапарку, то ў яго спытаюць не пра кваліфікацыю, а пра прапіску. Здаецца, ніводзін супрацоўнік аддзелу кадраў не ведае, што Канстытуцыйны суд адмяніў узаемасувязь паміж прапіскай і месцам працы. Усе чулі пра тое, што для працаўладкавання іншагародніх у Мінску патрабуецца дазвол Мінгарвыканкаму і каштуе ён прадпрыемству 500 мінімальных заробкаў. Але гэта толькі ў тым выпадку, калі прадпрыемства мэтанакіравана запрашае спецыяліста, напрыклад, з Магілёва. Ва ўсіх астатніх выпадках сталічныя прадпрыемствы могуць прымаць на працу іншагародніх, калі тыя маюць хоць фармальную магчымасць кожны дзень вяртацца на сталае месца жыхарства. Штраф да 5 мінімальных заробкаў прадугледжаны за прыём на працу без пашпарта ці з несапраўдным пашпартам, а таксама «грамадзян, якія пражываюць без прапіскі». Але ў артыкуле 182 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэннях не ўдакладняецца, што патрэбна прапіска ў тым жа горадзе, у якім знаходзіцца прадпрыемства.

## Працалюбівыя беларусы ў Расіі

Даволі часта беларусы імкнуцца папрацаваць у Расіі. Там, па нашых уяўленнях, болей плацяць. Сярэдні расійскі заробак, напрыклад, будаўніка складае 300-400 даляраў. Але там гэты рынак падрываюць украінцы і малдаване, якія згаджаюцца працаваць і за 200 даляраў, таму бывае, што і беларусам больш за 250 не прапануюць. Нягледзячы на тое, што якасць працы і дысцыпліна значна вышэйшая якраз у беларусаў. У Маскву ў асноўным едуць працаваць будаўнікамі і кіроўцамі. У Санкт-Пецярбургу шмат вакансій інжынерна-тэхнічных работнікаў, патрабуюцца і лекары. Гэта акрамя звычайных рабочых вакансій. Паміж Расіяй і нашай краінай існуе пагадненне аб узаемным працаўладкаванні грамадзян, згодна з якім беларусы ў Расіі, а расіяне ў Беларусі не лічацца іншаземнай працоўнай сілай. Каб паехаць на працу ў Расію, не трэба ні ліцэнзій, ні дазволаў. Але тым не менш вельмі часта жаданне паехаць працаваць гуртам, і каб нехта знайшоў працу, прыводзіць людзей у фірмы-пасрэдніцы. Сярод іх ёсць як законапаслухмяныя, так і махлярскія. Апошнія прапануюць працаўладкаванне па такой схеме: абвестка ў газеце, размова з дыспетчарам, збор каля аўтобуса, аплата «за паслугі» ад 20 і больш даляраў – і ўперад, у бялакаменную. Больш «агенцтва» ні за што не адказвае. Людзей могуць прывезці, высадзіць з аўтобуса – і ідзіце сабе куды хочаце і рабіце што хочаце.

**Вячаслаў, 32 гады:**

– Па адукацыі я – інжынер, але няхай іншыя працуюць за 170 тысяч. Разам з жончыным братам мы набылі фірмовы інструмент, пэйджэр і цяпер мяняем, пераносім разеткі і выключальнікі, навешваем карнізы, збіраем мэблю. Працуем праз абвесткі ў газеце. Я зарэгістраваны ў цэнтры занятасці. Жонка кажа, што гэта выгадна. Яна працуе медычнай сястрой, грошы невялікі, а дзяцей у нас двое. Дык яна атрымлівае даплаты на дзяцей і яшчэ маем нейкія льготы праз тое, што лічымся малазабяспечанымі.

**Алена, 27 год:**

– Я атрымліваю вышэйшую адукацыю на вячэрнім аддзяленні і працую пашталькай. Раней я працавала ў атэлье і бухгалтаркай у камерцыйнай структуры. Першы раз звярталася ў цэнтр занятасці, мне прапанавалі курсы і працу. Потым я сама скончыла курсы і знайшла месца па абвестцы. А працу паштара выбрала свядома: у тры гадзіны я ўжо вольная. Ёсць час адпачыць і падрыхтавацца да заняткаў. Шукаючы гэтую працу, я тэлефанавала ў аддзяленні сувязі, якія мне падабаліся геаграфічна. Ведаеце, у нас зараз ёсць вакансія і прыходзіць людзі цікавіцца. Але ніхто пакуль не застаецца працаваць. Здаецца, мае аднагодкі шукаюць лёгкага хлеба, а жанчыны больш сталага веку лічаць, што ім павінны плаціць ужо не за працу, а за іх ўзрост.

**Максім, 21 год:**

– Я хачу знайсці такую працу, каб атрымліваць не меней, чым 300 даляраў. Пакуль мяне ўтрымліваюць бацькі. Маці два гады працавала ў Грэцыі – грошы ёсць. За капейкі рабіць я не буду.

**Ларыса, 35 год:**

– Уладкавацца на добрую працу можна толькі праз знаёмства. Нават не на самую добрую. У нас усе прывыклі хоць штосьці мець з сваёй працы. Калі не могуць скрасці што-небудзь, дык хоць гандлююць інфармацыяй пра тыя ж вакансіі. У мяне ўжо сем запісаў у працоўнай кніжцы. Усё толькі па знаёмстве. Лічу, што ўсё ж такі лепей працаваць у дзяржаўнай структуры. Тут табе і бюлетэнь аплацяць, і нейкую пуцёўку дадуць, і дзяцей на лета ўладкуеш у лагер адпачынку. А камерсанты ў нас пакуль што жывуць па прынцыпе: хачу – плачу, хачу – не плачу.

**Віталь, 28 год:**

– Працую ў прыватнай фірме, грошы атрымліваю ў канверце. Працоўная кніжка ляжыць дома, гэта непакоіць бацькоў. Але мой заробак за месяц – у тры разы большы за іх дзве пенсіі. Працаўладкаваўся дзякуючы таму, што старэйшая сястра яшчэ ў гады майго студэнцтва парэкамендавала ў фірму сваіх сяброў. Студэнтам я зарабляў 50, 70, калі пашчасціць – 100 даляраў. Цяпер значна больш, але я да гэтага ішоў не адзін год. Пакуль сябры на дыскатэках, я за камп'ютэрам, пакуль яны пахмяляюцца – я на курсах англійскай мовы. Зарабіць можна і ў нас, калі працаваць, а не спадзявацца, што табе будуць плаціць вялікія грошы за прыгожыя вочы.

**Наталля, 25 год:**

– Я і зараз без працы. Ведаеце, мяне «кінулі» ў дзвюх фірмах. Уладкоўвалася, абяцалі 200 даляраў, адпрацавала тры месяцы – выпрабавальны тэрмін, далі 100 даляраў і адправілі, нібыта не падышла. Потым даведалася, што гэта даволі распаўсюджаны трук. У другой фірме абяцалі заробак – 150 даляраў. Грошы затрымлівалі: заўсёды ў іх цяжкасці з кліентамі. Кожны месяц недадавалі. Калі лопнула цярпенне, я ад іх сышла. За пяць месяцаў атрымала 290 даляраў. У цэнтры занятасці я са сваёй юрыдычнай адукацыяй нікому не патрэбна. Камерцыйныя кадравыя агенцтвы займаюцца толькі топ-персаналам. Мне застаюцца абвесткі. Магу параіць: калі там не напісана назва фірмы ці прадпрыемства, а таксама пасада, на якую запрашаюць, то і не трэба тэлефанаваць. Будзе гэта якое-небудзь распаўсюджванне касметыкі ці іншы «лахатрон».

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

# Лішні

## Пуцін аддае перавагу «галушкам» Кучмы перад «дранікамі» Лукашэнкі

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Часам яны не выконваюць сваіх уласных кулуарных абяцанак. Але толькі праз асабістыя кантакты кіраўнічая эліта лабіруе свае інтарэсы.

Цяпер усе «садружнасныя» лідэры, акрамя Лукашэнкі, вядуць вельмі бурнае жыццё. Чаму ж выпаў менавіта беларускі прэзідэнт? Усё проста. А што А.Р. можа прапанаваць патэнцыйным партнёрам?

Недзе ў сярэдзіне 1997 году ў краінах СНД да Аляксандра Лукашэнкі пачалі ставіцца як да паўнавартаснага палітычнага лідэра. Па заслугах ацанілі яго жорсткасць у гульні супраць унутраных апанентаў. Даравалі аўтарытарныя замашкі. Зрэшты, сярод лідэраў СНД шмат хто аддае перавагу асабістаму валюнтарызму перад дэмакратычнымі працэдурамі. Акрамя таго, іншых «айцоўзаснавальнікаў» Садружнасці незалежных дзяржаваў вельмі ўражвала агрэсіўная гульня Лукашэнкі на полі першага расійскага прэзідэнта Ельцына. У той час А.Р. часта імправізаваў на тэму інтэграцыі, рабіў дынамічныя рэйды па расійскіх рэгіёнах. Часам ён дазваляў сабе вельмі эмацыйна крытыкаваць састарэлага Барыса Ельцына, чым прынаджваў 25-30% расійскіх выбарцаў. Потым па абодва бакі беларуска-расійскай мяжы эліту шакавалі чуткі пра тое, што А.Р. усур'ёз вывучае магчымасць асядлаць расійскі пасад. Якраз тады загаварылі пра тое, што Лукашэнка ледзьве не кантралюе ўплывовую камуністычную фракцыю Дзяржаўдумы, а план ператварэння ў расійскія прэзідэнты будзе ажыццяўляцца за кошт грошай маскоўскага мэра Лужкова і яго фінансава-гандлёвага монстра АФК «Сістэма».

Як выявілася пазней, шмат што з задуманага А.Р. не мела пад сабою рэальнага грунту. Лукашэнка так і не здабыў у Маскве сапраўды сур'ёзных саюзнікаў. А шматлікія экспансіяніцкія планы А.Р. паджыўляліся выключна гутаркамі ў лазні невялікай купкі беларускіх патрыётаў. Асабліва яскрава няздатнасць Лукашэнкі як палітыка маштабу СНД выявілася ў 2000 годзе. Якраз гэты год трэба лічыць пачаткам сістэмнага палітычнага рэфармавання ў Расіі, прадпрынятага новаспечаным прэзідэнтам Пуціным.

Сёння лідэры СНД – спрэс выхадцы з шэрагаў старой савецкай наменклатуры – разглядаюць А.Р. як выпадковага чалавека ў вялікай палітыцы. Адпаведна і стаўленне да яго як да прэзідэнта хутчэй паблажліва-пагардлівае. Ці разумее гэта сам А.Р.? Наўрад ці. Інакш бы ён занепакоіўся надзвычайнай інтэнсіўнасцю двухбаковых перамоваў расійскага і ўкраінскага прэзідэнтаў. Але А.Р. не ўмее выбудоўваць складаныя канструкцыі, а таму працягвае гульню ў абсалютызм у межах суверэннай Беларусі.

### У абход Беларусі

Крыху больш за тыдзень таму расійскі прэзідэнт Пуцін чарговым разам сустрэўся з прэзідэнтам Украіны Кучмам. Толькі на працягу 2002 году расійскі і ўкраінскі прэзідэнты сустракаюцца пяты раз. Гэта калі не лічыць актыўных тэлефонных перамоваў, а таксама рэгулярных узаемных абменаў так званымі «ўрадавымі кур'ерамі» – у якасці якіх выступаюць прэм'еры, віцэ-прэм'еры, галіновыя міністры ўрадаў Расіі і Украіны.

Ці трэба казаць, што на такім уражальным расійска-ўкраінскім перамоўным фоне адзінота Лукашэнкі выступае асабліва рэльефна? Магчыма, сам А.Р. не звяртае на гэта аніякай увагі. Магчыма, у А.Р. няма часу і дастатковай інфармацыі для сістэмнага аналізу тэндэнцыяў у Садружнасці. Усё ж ён вядзе досыць актыўны лад жыцця. Але дазволім сабе сцвярджаць, што Лукашэнка практычна цалкам выпаў з палітычнага жыцця нават у рамках СНД. Чаму?

Апошняя сустрэча Пуціна і Кучмы ў Адэсе цікавая нам адразу з дзвюх прычынаў. Папершае, як заявіў адзін з удзельнікаў «адэскага рандэву» – расійскі паліўны віцэ-прэм'ер Віктар Хрысценка, – практычна завершана распрацоўка плану транзіту расійскай электраэнергіі цераз Украіну і Малдову ў Еўропу. Па-другое, актыўнасць расійскага прэзідэнта, перадусім на ўкраінскім напрамку, моўчкі пацвярджае незапатрабаванасць Лукашэнкі як перспектыўнага партнёра для Крамля.

З аднаго боку, Крэмль практычна цалкам дыстанцыяваўся ад любых публічных заяваў свайго беларускага саюзніка. Ініцыятывы Лукашэнкі адносна перспектываў Саюзу Расіі і Беларусі зусім перасталі выступаць у якасці інфармацыйных нагодаў. Беларусь цяпер цалкам залежыць ад рашэнняў Масквы. І гэта не вельмі добра. З іншага боку, расійскі бізнес пры актыўным удзеле пуцінскай адміністрацыі і ўраду Касьянава фармуе новы калідор для сыравінных кантактаў з заходнееўрапейскімі спажыўцамі. У абход Беларусі. Такім чынам, не прадпрымаючы публічнай атакі – пра што мараць Лукашэнкавы апаненты – Крэмль апасродкавана, але эфектна атакуе А.Р. па ўсіх стратэгічных напрамках. У «саюзнай» палітыцы Лукашэнка зведзены да ўзроўню ніжэйшага за губернатарскі. У эканоміцы Беларусь імкліва страчвае статус «абраннага» партнёра Расіі.

### Другаснасць

Пра насычанасць і якасць сустрэч на найвышэйшым узроўні можна ўскосна меркаваць паводле іх колькасці. Шчыльнасць расійска-ўкраінскіх сустрэч на такім узроўні на адзінку часу проста ўражвае. Гэта пры тым, што ўласна расійска-ўкраінскія стасункі далёкія ад ідэалу. І рэч не толькі ў няпэўнасці паліўна-энергетычных адносінаў. Хутчэй праблема ў нейкім комплексе непаўнавартаснасці, на які ўсё яшчэ церпіць Украіна, калі пачынае кантактаваць з расійскімі дзяржпартнёрамі. Аднак за апошнія паўтара году Украіна стала адным з прыярытэтаў расійскай знешнепалітычнай дактрыны. Гэта што да, так бы мовіць, блізкага замежжа. З іншага боку, Расія сёння спрабуе аднавіць свой статус актыўнага і ўплывовага сусветнага гульца. Не заўсёды выходзіць. Рэч у тым, што ў Расіі ўсё яшчэ маюць шырокую сацыяльную падтрымку традыцыйныя імперска-патрыятычныя спадзяванні. Патрэбны час, каб гэта пераадолець. Тым не менш, спроба расійскага кіраўніцтва выглядаць дэмакратычна сама сабою выклікае сімпатыю.

Відавочна, што больш жорсткае прадэмакратычнае замежнапалітычнае пазіцыянаванне Расіі запатрабавала перагляду стасункаў з Беларуссю. Заўсёды цяжка мець справу з нестабільнымі палітычнымі сістэмамі. Беларусь жа не можа пахваліцца наяўнасцю колькінебудзь выразных унутраных правілаў. Да таго ж – і пра гэта ўсё больш кажуць у кулуарах – Лукашэнка выклікае надзвычай негатыўную рэакцыю ўва ўсяго расійскага топ-менеджменту. Сёй-той прыгадаў Аляксандру Рыгоравічу эмацыйныя эскапады супраць Ельцына і дэманстратыўную дружбу з камуністамі-выраджэнцамі Зюганава (Валошын). Сёй-той заўсёды вылучаўся адкрытым непрыняццем асобы Лукашэнкі (Чубайс). А Пуціна раздражняе няўменне Лукашэнкі працаваць жорстка, але кулуарна і без лішняй істэрыі.

Між іншым, у самой Беларусі бюракратыя выдатна разумее, што Лукашэнка сёння не ў стане эфектыўна лабіраваць беларускія інтарэсы ў расійскіх кулуарах. Праўда, разуменне гэтае хутчэй неўсвядомленае. Скажам, афіцыёзная *Советская Белоруссия* ў публікацыі, прысвечанай усё таму ж саміту ў Казахстане (*СБ*, 01.03.2002 г.), адзначае: «Пуцін-дзяржаўнік выстройвае новую, больш прагматычную, а значыць, сучасную і больш дзейсную палітыку што да Садружнасці».

Такім чынам, падкрэсліваецца, што якраз Пуцін сёння вызначае прыярытэты ў рамках СНД. Можам дадаць: Пуцін вызначае і паводзіны Лукашэнкі на замежных рынках. Праўда, апошні ўсё яшчэ мярkуе, што ён абсалютна самастойны.

Так ці інакш, Беларусь сярод прыярытэтаў Расіі знаходзіцца ў аўтсайдэрах. У прыватнасці, адзначым, што сёння паміж расійскімі і беларускімі структурамі працуюць толькі старыя сувязі. То бок сувязі, якія ўтварыліся 5-7 гадоў таму. Пры гэтым варта ўлічваць, што беларускія вытворцы, пасярэднікі, спажыўцы з большай ахвотай працуюць «у цені». Шматлікасць формаў разліку, розніца валютных курсаў, бартэр, непразрыстыя балансы, абавязковыя пасярэдніцкія структуры. Ад усяго гэтага Расія спрабуе пазбавіцца. Сёе-тое ўдаецца. У сваю чаргу, празрыстыя бізнес-праекты, якія прапануюцца прыватнымі і дзяржаўнымі расійскімі кампаніямі, беларускі бок катэгарычна адкідае. Магчыма таму, што тады стане яснай няздатнасць беларускіх дзяржменеджэраў. А можа, уся справа ў нежаданні губляць ценевыя фінансавыя плыні? Няважна.

### Відавочнае...

Можна засумнявацца ў тым, што расійска-беларускія стасункі перажываюць крызісны момант. Абедзве дзяржавы актыўна працягваюць гуляць у інтэграцыю. З штомесячнай перыядычнасцю прапануюць адна адной розныя тэарэтычныя мадэлі аб'яднання. Але ж, як вядома, асабіста Уладзімір Пуцін не бярэ абсалютна ніякага ўдзелу ў пабудове так званай Саюзнай дзяржавы. Больш за тое, усе палітычныя складнікі Саюзу Беларусі і Расіі аддадзены на водкуп беларускаму боку. Расія на «саюзную палітыку» не звяртае ўвагі, разумеючы, што беларусы выкарыстоўваюць «палітыку» чыста дзеля ўнутранай прапаганды. Але ў той жа час эканоміка Беларусі вельмі моцна цікавіць расійскіх прадстаўнікоў. Якраз таму ў рамках двухбаковай інтэграцыі вядучую партыю выконвае расійскі прэм'ер Міхаіл Касьянаў. Лукашэнка ж відавочна недалюблівае Касьянава. Перадусім за непрымірымасць апошняга ў пытаннях уніфікацыі гандлёвых, падатковых, фінансавых правіл у рамках Саюзу. Акрамя таго, Касьянаў абыякавы да любых гаворак пра аднаўленне СССР.

Пахаладненне стасункаў пачалося не сёння і не ўчора. Літаральна адразу пасля прызначэння Пуціна в.а. прэзідэнта Расіі Лукашэнка выпаў з кагорты жаданых гасцей у Крамлі. Пасля прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі – увосень 2001 году – сітуацыя пагоршылася літаральна на вачах. Так, пасля «ўражальнай» перамогі Лукашэнкі асабістыя віншаванні Пуціна прагучалі толькі праз тры тыдні і праз тэлефон. Праўда, крыху раней з адміністрацыі расійскага прэзідэнта на імя Лукашэнкі прыйшло факсімільнае віншаванне. Аднак яно было без асабістага подпісу Пуціна. Хутчэй гэта быў акт дыпламатычнай ветлівасці.

Спроба правесці асабістую сустрэчу двух прэзідэнтаў ператварылася ў сапраўдную мыльную оперу. Тэрміны пераносіліся не адзін раз. І толькі на пачатку снежня Пуцін упершыню сустрэўся з Лукашэнкам, пераабраным на другі тэрмін у верасні. Або гэта стасункі саюзнікаў? Другім разам Пуцін і Лукашэнка сустрэліся ў згаданым ужо казахскім Чымбулаку. Аднак на гэтым саміце Пуцін знайшоў час толькі для Шэварднадзе, малдаўскага прэзідэнта Вароніна і гаспадара Назарбаева. Лукашэнка аказаўся не пры справе.

Так і ператвараюцца ў правінцыялаў, аўтсайдэраў ад вялікай палітыкі. Без асабістых кантактаў на найвышэйшым узроўні. Пры поўнай адсутнасці ў інфармацыйнай прасторы СНД і г.д.

**Уладзімір ВАЛАНІН**



**НАША СВАБОДА рыхтуе да выпуску спецыяльны аналітычны выпуск «Палітыка». Падрабязна пра цяперашнія ценевыя стасункі Расіі і Беларусі чытайце ў першых нумарах «Палітыкі».**

ЮСТЫЦЫЯ

## Андрэй Клімаў: «Пара на свабоду!»

Ужо сёння дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі 13-га склікання, вядомы прадпрымальнік Андрэй Клімаў можа выйсці на свабоду з мінскай калоніі строгага рэжыму УЖ-15/1.

Рашэнне аб змяненні Клімаву віду пакарання прынята 22 сакавіка на выязным пасяджэнні калегіі суду Цэнтральнага раёну Мінску пад старшынствам Пятра Кіркоўскага, якое прайшло ў названай калоніі. Суд разгледзеў прадстаўленні адміністрацыі калоніі аб змякчэнні пакарання шэрагу зняволеных, якія не дапусцілі парушэнняў рэжыму падчас адбыцця пакарання. У іх ліку быў і Клімаў.

Андрэй Клімаў, адзін з найбольш паслядоўных і яркіх апанентаў Аляксандра Лукашэнкі, быў прыгавораны да шасці гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму судом Ленінскага раёну за здзейсненыя крымінальныя злачынствы. Аднак беларуская і міжнародныя праваабаронцы ацанілі гэты прысуд як палітычна матываваны. На іх думку, падчас суду не быў даказаны склад злачынстваў, у якіх абвінавачваўся Клімаў, – крадзяжы ў асоба буйных памерах і службовы падлог.

Судовая калегія задаволіла прадстаўленне адміністрацыі калоніі і змякчыла Клімаву пакаранне, замяніўшы пазбаўленне волі на выпраўленчыя працы па месцы жыхарства з утрыманнем у даход дзяржавы часткі заробтнай платы. Да заканчэння вызначанага судом тэрміну пакарання А.Клімаву застаецца 1 год 10 месяцаў і 16 дзён. Ужо сёння, пасля афармлення ўсіх неабходных дакументаў, ён можа пакінуць тэрыторыю калоніі.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Пракуратура праверыць прысуд Ігнатовічу

22 сакавіка прэс-цэнтр Пракуратуры Беларусі распаўсюдзіў заяву аб прысудзе па справе групы Валерыя Ігнатовіча. У заяве гаворыцца, што падчас судовага разбору крымінальнай справы знайшлі пацвярджэнне доказы стварэння ўзброенай банды і ажыццяўлення 7 ліпеня 2000 году Валерыем Ігнатовічам і Максімам Малікам выкрадання аператара расійскай тэлекампаніі *ОРТ* Дзмітрыя Завадскага. Яны таксама прызнаныя вінаватымі «ў разбойным нападзе 9 снежня 1999 году ў горадзе Жодзіна Мінскай вобласці на кватэру Тоўсцік Л.М., прычыненні пры гэтым цяжкіх цялесных пашкоджанняў Барысаву І.П., у разбойным нападзе, здзейсненым разам з Гузам А.В., і наўмысным забойстве Ясько Л.І. у горадзе Барысаве. Асуджаны Савушкін С.М. прызнаны вінаватым у замаху на адкрыты рабунак маёмасці жыхаркі гораду Мінску Харашкевіч А.А., здзейсненым 25 ліпеня 1998 году».

«Па сукупнасці здзейсненых цяжкіх злачынстваў, з улікам абцяжарваючых віну абставін, суд абгрунтавана прыгаварыў Ігнатовіча В.А. і Маліка М.М. да вышэйшай меры пакарання – пажыццёвага зняволення з адбываннем пакарання ў калоніі асобага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці; Гуза А.В. – да 25 гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі асобага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці; Савушкіна С.М. – да 12 гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі строгага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці», – гаворыцца ў заяве прэс-цэнтру пракуратуры. На думку суда, не знайшлі пацвярджэння эпізоды разбойнага нападу і забойства пяці грамадзян Азербайджану ў Мінску, што пастаўлены ўсім чатыром абвінавачаным, а Ігнатовічу – яшчэ і выкраданне жыхара гораду Мар'іна Горка Мінскай вобласці Котава В.А., разбойны напад і забойства Сойкі Л.В. (падчарка Котава), здзейсненае ў вёсцы Кавалёва Пухавіцкага раёну.

«Пракуратурай Рэспублікі Беларусь вывучаецца пытанне аб вынесенні па справе прысуд і, у адпаведнасці з заканадаўствам, будзе прынята рашэнне аб яго законнасці», – паведамляе прэс-цэнтр.

**БелаПАН**

 

# Пашырэнне *NATO* пасля 11 верасня

## *Амерыканскі погляд на сваю геапалітыку ў Еўропе*

*Размешчаныя паміж Балтыйскім і Чорным морамі 10 краінаў Еўропы, якія імкнуцца ўступіць у NATO, называюцца «Вільнюскай дзесяткай», бо першая сустрэча іхніх прадстаўнікоў адбылася ў літоўскай сталіцы. Прызначаная на гэтыя дні сустрэча «Вільнюскай дзесяткі» на найвышэйшым узроўні ў Бухарэсце акрэсліць іх супольную мэту – атрымаць запрашэнне ў NATO ў гэтым годзе.*

Паўночна-атлантычны альянс індывідуальна ацэньвае кожную кандыдатуру. Кожная краіна павінна адпавядаць жорсткаму набору ваенных, палітычных і эканамічных крытэрыяў, што зафіксаваныя ўва ўзгодненых з ёю трохгадовых індывідуальных планах падрыхтоўкі да ўступу ў *NATO*.

Стратэгічнае размяшчанне прыбалтыйскіх дзяржаваў набывае большую значнасць у параўнанні з Цэнтральнай і Паўднёва-Усходняй Еўропай, якая ўключае Славакію, Славенію, Румынію і Балгарыю.

Летась, прамаўляючы ў Варшаве, прэзідэнт Джордж Буш адзначыў, што пашырэнне *NATO* мусіць распаўсюджвацца на ўсю прастору паміж Балтыйскім і Чорным морамі. Толькі *NATO* мае магчымасць гарантаваць, што гэты рэгіён не вернецца ў свой ранейшы стан «шэрай зоны», якую можа паглынуць моцны сусед. Урокі 11 верасня спрыяюць тэрміноваму вырашэнню пытання аб тым, каб разглядаць гэтую прастору як адзінае і непадзельнае цэлае, далучыўшы яго да сістэмы заходніх саюзаў.

Калі Румынія і Балгарыя ўступяць у *NATO*, альянсу будзе лягчэй мацаваць свае партнёрскія стасункі з Украінай і Грузіяй, падвышаць стратэгічную стабільнасць і спрыяць развіццю рэгіёну Паўднёвы Каўказ – Каспій.

Чорнае мора служыць галоўным шляхам транспартавання каспійскай нафты – гэтую функцыю ілюструе нядаўні ўвод у эксплуатацыю нафтаправоду з Казахстану ў Наварасійск, адкуль танкеры вязуць нафту на еўрапейскія рынкі. Прычарнаморская Грузія адыгрывае важную ролю ў планаваных трубаправодах для дастаўкі каспійскай нафты і прыроднага газу. Больш за тое, Чарнаморскі басейн і Грузія – буйны сегмент спланаванага Еўрасаюзам і ўхваленага Злучанымі Штатамі транзітнага калідору Еўропа – Сярэдняя Азія.

Украіна забяспечвае незаменны паветраны калідор для антытэрарыстычнай кааліцыі, якая вядзе ваенныя дзеянні ў Афганістане, скарыстоўваючы таксама тэрыторыю краінаў Сярэдняй Азіі. З кастрычніка 2001 году да сёння па гэтым маршруце праляцелі з натаўскіх краінаў цераз Украіну, Чорнае мора, Грузію і Азербайджан 1 400 амерыканскіх і саюзных ваенных самалётаў.

Да нядаўняга часу прысутнасць Злучаных Штатаў на Чорным моры абмяжоўвалася тэрыторыяй Турцыі. Урад Турцыі яшчэ да 11 верасня даводзіў, што альянс павінен забяспечыць сабе сталы доступ да заходняга ўзбярэжжа Чорнага мора, прыняўшы ў *NATO* Балгарыю і Румынію. Паколькі Венгрыя стала чальцом *NATO* ў 1999 годзе, то ўключэнне ў ягоны склад і гэтых краінаў не толькі злучыць нарэшце натаўскую Еўропу з Турцыяй і Грэцыяй, але і дасць альянсу найзручнейшы выхад да Чорнага мора і Паўднёвага Каўказу.

Грузія ў стратэгічных адносінах можа разглядацца як працяг Паўднёва-Усходняй Еўропы. У гэтым кантэксце ЗША, іх заходнееўрапейскія саюзнікі і Турцыя згодныя з неабходнасцю захавання незалежнай Грузіі. Нядаўняе рашэнне ЗША накіраваць у Грузію часці свайго спецназу для падрыхтоўкі грузінскай арміі падкрэслівае гэтую мэту. Турцыя, якая забяспечвае Грузіі стратэгічны тыл на поўдні, саступае толькі Злучаным Штатам як крыніца дапамогі грузінам у пытаннях бяспекі. Зразумела, што прысутнасць *NATO* ў заходняй частцы Чорнага мора – насупраць Грузіі, прывяжа гэтую краіну да яе заходніх партнёраў.

Украіна вітала пашырэнне *NATO* ў 1999 годзе, калі сябрамі Паўночна-атлантычнага альянсу сталі яе заходнія суседзі – Польшча і Венгрыя. Для ўкраінцаў гэта азначае ўзмацненне ўласнай бяспекі і стабільнасці на заходнім флангу – па сутнасці, палітыка страхавання на будучыню. А вось на паўднёвым флангу Украіны сёння адчуваецца дэфіцыт бяспекі ў выніку замарожанага канфлікту ў Малдове, які пагражае распадам гэтай краіны і можа адбіцца таксама на Украіне і на далейшых тэрыторыях. Такім чынам, Украіна мае ўсе падставы вітаць стабілізацыйны эфект *NATO*.

Натаўскім палітыкам даецца беспрэцэдэнтная магчымасць уключыць тэрыторыю між Балтыйскім і Чорным морамі ў склад заходняга свету. Галоўныя перадумовы штодзённа ўзмацняюцца самімі краінамі, якія імкнуцца ўступіць у альянс шляхам эканамічных і палітычных рэформаў і здзяйсненнем планаў падрыхтоўкі да ўступлення ў *NATO*.

Бухарэсцкі саміт краін-кандыдатаў на ўваход у *NATO* дазволіць збалансаваць парадак пашырэння альянсу, гарманізуе балтыйскі і чарнаморскі напрамкі з патрабаваннямі міру пасля 11 верасня.

**The Wall Street Journal, ЗША**

# «Тэрарыстычны скандал» у Літве



На мінулым тыдні ўся літоўская прэса паведаміла пра тое, што каўнаская кампанія *Avia Baltika* падазраецца ў пастаўках вайсковага абсталявання краінам, якія могуць падтрымліваць міжнародны тэрарызм.

Штодзённік *Lietuvos rytas* са спасылкай на Дэпартамент дзяржаўнай бяспекі Літвы распавёў наступную гісторыю. Спецслужбы ЗША высветлілі, нібыта краіны, звязаныя з міжнародным тэрарызмам – такія, як Судан або Сьера-Леоне, атрымлівалі баявую тэхніку з Літвы праз Расію. Па звестках амерыканскіх спецслужбаў, размова ішла пра ваенныя верталёты і запчасткі да знішчальнікаў.

Кампанія *Avia Baltika* месціцца ў Каўнасе і займаецца рамонтам гелікоптэраў. Ёй належыць верталётны завод пад Санкт-Пецярбургам. На ім робіцца капітальны рамонт верталётаў, пасля чаго пад Каўнасам праводзяцца завяршальныя рамонтныя працы.

Па звестках літоўскіх СМІ, на працягу некалькіх гадоў *Avia Baltika* карысталася тым, што многія гелікоптэры расійскай вытворчасці маюць падвойнае прызначэнне – яны могуць выкарыстоўвацца і як цывільныя транспартныя сродкі, і як баявая тэхніка. У выніку некалькі такіх верталётаў у абход закону былі экспартаваныя ў нядобранадзейныя афрыканскія краіны, дзе патрапілі ў рукі тэрарыстычных груповак.

*Avia Baltika* набывала верталёты і запасныя часткі для знішчальнікаў у Расіі і прадавала Сьера-Леоне, Судану, Джыбуці, Турцыі, Індыі і Мексіцы. Праз Літву таксама адпраўляліся на рээкспарт камплектуючыя да знішчальнікаў *МиГ-21*, *МиГ-23* і *МиГ-25*.

Нагадаем, што, паводле Дзярждэпартаменту ЗША, Судан – адна з краінаў, што падтрымліваюць міжнародны тэрарызм.

У чацвер камерцыйны дырэктар *Avia Baltika* Віктарас Бразайціс паведаміў прэсе, што ўсе абвінавачванні ў бок ягонай кампаніі беспадстаўныя. Па ягоных словах, кампанія сапраўды прадала Судану адзін верталёт, але ён выкарыстоўваецца выключна ў мірных мэтах – перавозіць супрацоўнікаў нафтаперапрацоўчых кампаніяў, і *Avia Baltika* можа гэта даказаць.

Тым часам, прэзідэнт Літвы Валдас Адамкус ужо загадаў узмацніць кантроль за экспартам і імпартам тавараў стратэгічнага і падвойнага прызначэння – у адказ на просьбу амерыканскай амбасады ў Вільнюсе патлумачыць механізм кантролю за ўвозам і вывазам вайсковай тэхнікі і запчастак да яе.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Доўгі цень Мілошавіча

**Алекса ДЖЫЛАС, сын вядомага югаслаўскага дысідэнта Мілавана Джыласа, у мінулым супрацоўнік Гарвардскага універсітэту, з 1993 году жыве ў Бялградзе як незалежны навуковец і мысляр**



*Ужо шэсць тыдняў у Гаазе ідзе судовы працэс па справе Слабадана Мілошавіча. Як чакаецца, ён будзе цягнуцца яшчэ два гады, а цень гэтага чалавека ўсё яшчэ навісае над Сербіяй. Пра гэта кажа праведзены на мінулым тыдні на падставе абвінавачання ў шпіянажы арышт віцэ-прэм'ера Сербіі Мамчылы Перышыча і буйнога амерыканскага дыпламата.*

Той факт, што прэм'ер-міністр Зоран Джынджыч запатрабаваў адстаўкі Перышыча, дае падставы меркаваць, што Перышыч прынамсі пераступіў межы дазволенага ў сваіх кантактах з замежнымі дыпламатамі.

У сувязі з гэтымі арыштамі Джынджыч абвінавачвае Югаслаўскую нацыянальную армію, якая кантралюецца прэзідэнтам Ваіславам Каштуніцам, ува ўмяшанні ў пытанні палітыкі. Каштуніца, у сваю чаргу, заяўляе, што выйскоўцы выконвалі свае абавязкі. Праблемы Джынджыча абцяжарваюцца тым, што Перышыч, падобна, чалавек ненадзейны. Як генерал часоў Харвацкай вайны Перышыч быў завочна асуджаны за вайсковыя злачынствы харвацкім судом. Пазней ён быў прызначаны старшынём апарату Мілошавіча і перайшоў у апазіцыю, калі ўлада Мілошавіча пачала слабнуць.

Магчымая сувязь паміж арыштам Перышыча і судовым працэсам па справе Мілошавіча палягае ў наступным: Перышыч мог падаць інфармацыю пра ўдзел Арміі ў падзеях, цікавых абвінаваўцам у Гаазе. Матываў у Перышыча шмат: жаданне адпомсціць сваім былым калегам, або дэстабілізаваць пазіцыі Каштуніцы, і/або заручыцца абяцаннем, што Гаагскі трыбунал не выставіць яму абвінавачання.

Калі сербскія палітыкі хочуць заручыцца грамадскаю падтрымкаю для выдачы Гаагскаму трыбуналу сербаў, што абвінавачваюцца ў ваенных злачынствах, яны ніколі не кажуць, што гэтага патрабуе справядлівасць або што праз Гаагу нацыя атрымлівае неабходны маральны катарсіс. Хутчэй наадварот, яны выкарыстоўваюць мову «*рэалпалітыкі*» і нагадваюць нам, што мы занадта слабыя, каб кідаць выклік Захаду, і што нашай эканоміцы, разбуранай вайной, санкцыямі і бамбаваннямі *NATO*, адчайна патрабуюцца пазыкі і крэдыты, якія даюцца пры ўмове выдачы Гаагскаму трыбуналу пэўных асобаў.

Многія заходнія назіральнікі і журналісты млява асвятляюць працэс па справе Мілошавіча. Паколькі вінаватасць Мілошавіча відавочная і ён умела бароніцца на адкрытым судовым пасяджэнні, яны і не імкнуцца шукаць хібаў і слабых бакоў у ягонай абароне. Радуюцеся таму, што вершыцца правасуддзе, – здаецца, так можна апісаць агульнае стаўленне да працэсу: ліхадзей атрымлівае па заслугах.

Але возьмем, напрыклад, вочную стаўку Мілошавіча і Падзі Эшдаўна на мінулым тыдні. Заходнія СМІ выставілі лорда Эшдаўна як годнага веры сведку ліхадзействаў сербаў у дачыненні да мірных албанцаў. У 1998 годзе ён асабіста папярэдзіў Мілошавіча, што калі ўсё будзе працягвацца як раней, умяшанне *NATO* непазбежнае.

Увагу сербаў прыцягнулі іншыя заўвагі Эшдаўна. Напрыклад, тое, што ён назваў Армію вызвалення Косава (АВК) тэрарыстычнай арганізацыяй. Так што цяпер сербы задаюцца пытаннем, чаму да суду не прыцягваюцца албанскія партызаны. Эшдаўн расказаў таксама, як прэзідэнт Харватыі Франьё Туджман заявіў на званым абедзе ў 1995 годзе, што яны з Мілошавічам дамовіліся пра падзел Босніі. Зноў жа, пытаюцца сербы, чаму Туджману ніколі не выстаўляліся абвінавачанні і чаму, калі ён памёр у 1999 годзе, на яго пахаванні прысутнічалі заходнія дыпламаты?

Сербы не лічаць Мілошавіча сваім героем, хоць многія заходнія журналісты думаюць інакш. На іх робіць уражанне тое, што ён выходзіць пераможцам на бальшыні перакрыжаваных допытаў, –калі не на ўсіх. Ім падабаецца, што ён імкнецца давесці, што ён сам і ягоны народ сталі ахвярамі *NATO* і тэрарыстаў АВК, якіх падтрымліваў Захад. Ён разумны, праніклівы і настойлівы. На тое, з якой халоднасцю і бестароннасцю ён кажа пра ахвяры – не толькі з албанскага, але і з сербскага боку, – сербы стараюцца не звяртаць увагі.

Але ніводная з гэтых акалічнасцяў не дапамагае Мілошавічу і ягонай Сацыялістычнай партыі падчас апытанняў грамадскае думкі. Сербы лічаць, што ён некампетэнтны і нясе адказнасць за іх паразы ў 1990-х гадах, а таксама за тое, што пры ягоным панаванні Сербія аказалася краінай з найбольшым лікам уцекачоў у Еўропе – каля 700 000 чалавек. Але калі з Мілошавічам і яго прыхільнікамі скончана назаўжды, яны ўсё яшчэ могуць дамагчыся аднаго: цалкам падарваць рэпутацыю трыбуналу. У сербаў на многія гады захаваецца цынічнае стаўленне да заходняга правасуддзя, а таксама страх і варожасць да Захаду.

Што насамрэч прынёс працэс па справе Мілошавіча, дык гэта рэзкае пагаршэнне стаўлення сербаў да кааліцыйнага ўраду Джынджыча. Як гіперпрагматычны палітык, Джынджыч перадусім дбае аб эканоміцы і таму імкнецца да поўнага супрацоўніцтва з трыбуналам. Аднак, нягледзячы на ўсе праведзеныя ім ад часу падзення Мілошавіча рэформы, у эканоміцы назіраюцца толькі нязначныя паляпшэнні. За павучаннямі Захаду не прыйшло сапраўднай шчодрасці, і дапамогі было атрымана вельмі мала. Супрацоўніцтва з Гаагаю, здаецца, прыносіць толькі прыніжэнне і ганьбу.

**© Project Syndicate, сакавік 2002**

# Ян Павел II – супраць «медыцынскай бессмяротнасці»

Папа Рымскі Ян Павел II заклікаў дактароў не звяртацца да надзвычайных захадаў дзеля працягнення жыцця смяротна хворым пацыентам. Прамаўляючы да дактароў на канферэнцыі ў Ватыкане, Папа Рымскі нагадаў пра значэнне здаровага рэалізму, які вучыць не забывацца на чалавечую тленнасць і разбурае ілюзію медыцынскай усёмагутнасці. Пантыфік высока ацаніў карысць навуковых доследаў, але заўважыў, што ўсё мае свае межы. Ён падкрэсліў, што лекары абавязаныя клапаціцца не толькі пра фізічны, але і пра духоўны стан хворых, што апынуліся на парозе смерці.

# Барадзіна выкупяць падзельнікі

Заплаціць 300 тысяч швейцарскіх франкаў штрафу за адмыванне Барадзіным «брудных» грошай у Швейцарыі вызваўся кіраўнік фірмы *Mercata Trading* Віктар Сталпоўскіх.

Такім чынам, Барадзін не будзе абскарджваць незаконнае, на ягоную думку, рашэнне пракурора Бернара Бертосы аб выняцці 175 тысячаў даляраў штрафу з 3,5 млн. даляраў закладу – пад такую гарантыю Пал Палыча летась у красавіку адпусцілі са швейцарскай турмы «Шан-Далон». Фактычна справу проста замнуць, прычым па просьбе бізнесменаў, якія праходзілі па справе «Барадзін ды іншыя» разам з былым кіраўніком справаў прэзідэнта, у тым ліку і Віктара Сталпоўскіх.

Паводле звестак следства, атрымаўшы 60-мільённы кантракт на рэстаўрацыю Крамля і прэзідэнцкага лайнера, менавіта Сталпоўскіх пералічыў на рахункі Барадзіна 22,4 млн. даляраў.

Унясці за Барадзіна ў казну штраф спадару Сталпоўскіх дапамогуць і іншыя прыватныя асобы, чые імёны згадваліся ў следчых дакументах.

«Тыя, хто гатовы пакрыць гэтую суму, – асобы, зацікаўленыя ў спыненні справы, бо яны ў ёй згадваліся», – патлумачыў адвакат былога кіраўніка справамі Генрых Падва.

Пракуратура Жэневы атрымае штраф з Барадзіна, якога мае за хабарніка. У бюджэт Расіі вернецца ўся сума ўнесеная ўрадам за былога кіраўніка справамі закладу. А сам Барадзін не заплаціць швейцарскай пракуратуры ані цэнту, прадэманстраваўшы тым самым глыбокае пераканане ўва ўласнай невінаватасці.

Дзякуючы ж шчодрасці Сталпоўскіх і іншых прыватных асобаў швейцарцы, якім не ўдалося давесці віну Барадзіна, здабудуць маральную перамогу над ім. 175 тысячаў даляраў за былога кіраўніка справамі бізнесмены ўнеслі дзеля таго, каб ён не даваў ходу справе. Папросту такая працэдура называецца хабарам, а ў адмыцці аналагічным чынам атрыманых грошай Барадзіна і падазравалі.

**Gazeta.ru**

# Дух мінулай вольнасці

Многія памятаюць гісторыю кардынальных зменаў на славутай «Вольнай сцэне»: сыход з тэатру кіраўніка Валерыя Мазынскага разам з большай librariesчасткай трупы і спробу стварэння «звычайнага» Рэспубліканскага тэатру беларускай драматургіі на чале з В.Анісенкам... Можна было б пра гэта ўжо і забыць, але для актораў, што ўсё ж засталіся ў родных сценах, праблема цалкам не вырашылася. Прыкладам, для Таццяны Мархель, Людмілы Сідаркевіч, Ігара Сігова. «Вольная сцэна» пры Мазынскім давала ўяўленне і пра пэўную акцёрскую вольнасць. Сюды сцягвалася беларуская інтэлігенцыя, цяпер жа большасць гледачоў – дзеці, якія прыходзяць нібы ў цырк, пахрумсцець чыпсамі і папіць, як дарослыя, піва.



На пытанні карэспандэнта НАШАЙ СВАБОДЫ пра сённяшні дух тэатру адказвае Ігар Сігоў. Яго прафесійная творчая дзейнасць пачалася ў 1994 годзе, пасля сканчэння Акадэміі мастацтваў. Упершыню ён выйшаў на сцэну у 1984-ым, у студыі ў Полацку, адкуль родам.

***– Ці не шкадуеце, спадар Ігар, што не сышлі разам з трупай?***

– Шчыра кажучы, яшчэ не да канца зразумеў, што адбылося, бо толькі-толькі пачынаюцца водгукі-«маланкі». А ўвогуле я ў жыцці ніколі не крыўдую на тое, што адбылося.

***– «Вольная сцэна» была эксперыментальнай студыяй, чыя творчая дзейнасць стала незвычайнай у нас з'явай. Цяпер яшчэ адзін «вузел» беларускасці развязаны, а наваствораны тэатр пераходзіць на класічныя рэйкі, на стандарт. Вось вам, Ігар, хіба надакучыла эксперыментаваць?***

– Я не сказаў бы, што гэты тэатр стаў класічным. Тое, што ў рэпертуары з'явіўся Шэкспір, яшчэ не азначае класічнага напрамку. Усё роўна засталася лабараторыя ў тым сэнсе, што большая частка трупы – моладзь, якая прыйшла разам з новым кіраўніком. Эксперымент прысутнічае, бо апошнім часам у тэатры ставяць спектаклі кінарэжысёры, у прыватнасці Уладзімір Арлоў, які цяпер стварае «Песні ваўка». Але гэта эксперымент іншага кшталту, іншай якасці, не зусім тэатральнай. Рэжысёр тэатру і кінарэжысёр – розныя рэчы. Не хацелася б з цягам часу ператварыцца ў кінастудыю.

І што б там ні было, але Валеры Мазынскі як быў бацькам, так ім і застаўся ў тым сэнсе, што мы разумелі адзін аднога з паўслова. Як кажуць, галоўнае ў акторстве – знайсці свайго рэжысёра. Мазынскі трымаў нас у спецыфічным асяроддзі. Пры ім рэпетыцыі праходзілі на беларускай мове, а цяпер – не, таму стала цяжэй уліваіца ў працу на сцэне з беларускамоўнымі тэкстамі.

Не сышоў, бо люблю гэтую сцэну, гэты халодны будынак, які не ацяпляецца, грымёркі – усё тут роднае. Застаўшыся, працягваю назапашаны і дадзены Мазынскім вопыт. Сталыя гледачы ўжо не ўяўляюць мяне на іншай сцэне. Трупа Мазынскага і так багатая на таленты... А я тут як дух мінулай вольнасці. Усё раблю праз надзею, хочацца верыць, што прафесійныя якасці, творчасць стаяць вышэй за амбіцыі.

***– Часам, стоячы ля рэпертуарнай афішы Рэспубліканскага тэатру беларускай драматургіі, выбіраеш тое, што ацалела з мінулага. Рэпертуар раней быў больш насычаны, арыгінальны, адпавядаў былой назве тэатру, быў створаны з душою. Цяпер, здаецца, ён «сабраны» на хуткую руку: сырыя, штучныя пастаноўкі змушаюць і шкадаваць, і настальгаваць. Як вы на гэта глядзіце?***

– Не мне судзіць. Са старога рэпертуару застаўся «Стомлены д'ябал», «Блазан», «Чорны квадрат» – тое, што змаглі рэанімаваць. «Адэль» і «Жанчыны Бергмана», я лічу, – спектаклі менавіта новага тэатру. З'явілася і выключна студэнцкая праца «Макбет». На мой погляд, рэпертуарная палітыка тэатру толькі пачынае будавацца. Што б ні казалі, але мы ўсё ж завязаны на беларускай драматургіі, беларускіх акторах. Шкада вельмі «Апошняй пастаралі». Мы з Людмілай Сідаркевіч лічым, што гэта наш спектакль.

***– А у чым карані такой вашай акторскай еднасці, ідыліі на сцэне?***

– Шэсць гадоў разам на сцэне. Увогуле кажуць, калі ў тэатры ёсць пара, то тэатр будзе існаваць. Якую п'есу ні ўзяць – мужчына-жанчына-канфлікт. Калі ж пара сыграная, гэта палова поспеху спектакля. «Апошняя пастараль» па Караткевічу і з'яднала нас па-акторску. Яшчэ Мазынскі казаў, што эмоцыю праўдзівую нараджае партнёр. Немагчыма накруціць эмоцыю ў сабе – будзе голая эмоцыя. А так – нібы гафтачка і кручочак, альянс. І тады глядач рэагуе на пачуцці. Гуляючы на сцэне, забываюся на абставіны, у якіх існую, але ўсё роўна бачу Люду, толькі ў іншым характары, няма ўспрыняцця роляў. Мы гуляем у гульню, але па-сапраўднаму, таму я і люблю сваю прафесію. Тут можна пражыць некалькі жыццяў, можна быць розным. Мне сумна жыць адным жыццём...

**Ірына ТОЎСЦІК**

# Музей адзначыў юбілей

У будынку Віцебскага мастацкага музею, дзе да 1917 году знаходзіўся акруговы суд, а пазней размяшчаліся першыя органы бальшавіцкае ўлады ды абласны камітэт камсамола, адбылася ўрачыстасць з нагоды дзесяцігадовага юбілею гэтай установы. У 1992 годзе ў выніку прыпынення дзейнасці камуністычных арганізацыяў ды паўсюднай перадачы найлепшых будынкаў, якія ім належалі, у распараджэнне мясцовых уладаў у Віцебску ўпершыню з'явіўся асобны мастацкі музей. Падчас урачыстасці ў музеі гаварылася пра больш як 180 праведзеных за дзесяць гадоў выставаў і каля 500 іншых мастацкіх падзей. Была ўрачыста адкрыта фотавыстава, прысвечаная гісторыі музею. Адзначалася, што колькасць наведнікаў за 10 гадоў амаль роўная колькасці насельніцтва Віцебску. Да жалю, не вельмі пасуе ўсім гэтым годным справам, што будынак, які з'яўляецца архітэктурным помнікам канца 19-га стагоддзя, не рамантаваўся ніводнага разу з таго часу, як у ім размясціўся музей.

**Міхал ЧАРВІНСКІ**

**ПРЭЗЕНТАЦЫЯ**

# «Прыгожае» на вершы Славаміра Адамовіча

*Прэзентацыя альбому «Прыгожае» на вершы Славаміра Адамовіча і музыку Вікторыі Ільінскай, якая адначасова і выканаўца, адбылася на мінулым тыдні ў музеі Максіма Багдановіча.*

Прэзентацыя зацікавіла ўжо самім сваім фактам, бо што далей, то болей мерапрыемствы такога кшталту ўспрымаюцца як рэдкасць. Культурніцкае кола змыкаецца, жыве толькі ўспамінамі пра «слаўнае мінулае», не кранаючы будучыні як дасяжнай мэты. Калі раней прэзентацыя беларускай кнігі ці альбому была натуральнай з'явай, то цяпер гэта выглядае як нешта помнікава-застылае для вузкай аўдыторыі, пра якую кажуць – «завёрнутыя» на гэтай глебе.

Альбом «Прыгожае» – гэта зборнік рамансаў на вершы сп.Адамовіча. У ім сутыкнуліся несумяшчальныя з'явы. Паэзія Адамовіча рэзкая, з яркімі, выразнымі вобразамі, ніяк не пасуе пад рамансы. Хутчэй яе можна скарыстоўваць як рокавыя тэксты. Вядома, аўтару вершаў прыемная запатрабаванасць ягонай творчасці, але магло быць і лепей. Ідэя добрая, але застаецца вялікі пытальнік – ці рэалізавалася яна ў адпаведна цікавай і ўдалай форме.

**Ірына КАСТРАВЕЦ**

# Дэпартамент па ўхваленні парушэнняў

## *«Старому Менску» зноў дазволілі знішчаць помнікі Верхняга гораду Мінску*

*Пра варварскую працу АТ «Стары Менск» напісаныя, калі сабраць разам, тамы. Наступнай ахвярай «рэстаўрацыі» сталі гандлёвыя рады на плошчы Свабоды беларускай сталіцы – адзін з самых каштоўных і цікавых помнікаў археалогіі і архітэктуры Верхняга гораду.*

Гандлёвыя рады належалі мінскаму кляштару бернардзінаў. У горадзе яны вядомыя пад назвай «Віленчукі», бо ў большасці з іх знаходзіліся крамы віленскіх купцоў. Рады былі пабудаваныя на пачатку XIX стагоддзя паводле праекту архітэктара Міхала Чахоўскага ў стылі класіцызму. «Віленчукі» вельмі ўдала дапоўнілі барочны ансамбль кляштару, заснаванага ў 1624 годзе. У касцельнай крыпце і на могілках XVII-XVIII стагоддзяў, што знаходзіліся побач з касцёлам, былі пахаваны не толькі манахі, але і прадстаўнікі вядомых родаў Міншчыны: Завішаў, Кенсоўскіх, Тышкевічаў, Хмараў і інш. Падчас будаўніцтва гандлёвых радоў, каб не закрануць старажытных пахаванняў, кляштар дамовіўся з гарадскімі ўладамі пра перанос новай будоўлі за межы кляштарнай агароджы.

Будавалі «Віленчукоў» майстры мінскага будаўнічага цэху з выкарыстаннем традыцыйных тэхналогіяў. Былі вымураваныя велізарныя падземныя памяшканні для захавання тавару. Сутарэнні былі перакрыты крыжовымі скляпеннямі. У сярэдзіне XIX стагоддзя з боку Бернардзінскай вуліцы (сучасная Кірылы і Мяфодзія) да гандлёвых радоў прыбудавалі мураваную афіцыну, а перад галоўным фасадам касцёлу зрабілі парадную браму.

Падчас Другой сусветнай вайны частка гандлёвых радоў была пашкоджана, згарэлі дахі. Адразу пасля вайны гарадскія ўлады вырашылі знесці большую частку «Віленчукоў», аднак падземныя памяшканні захаваліся.

У 1978 годзе пачаліся археалагічныя даследаванні помніка. Менавіта тады вырашаўся лёс гістарычнага цэнтру Мінску. Пасля гвалтоўнага знішчэння Нямігі планавалася цалкам разбурыць усю старажытную забудову гораду. На месцы праваслаўнага кафедральнага сабору прапаноўвалі пабудаваць гмах – Дом ведаў.

Пасля даследаванняў частку гандлёвых радоў закансервавалі, была праведзена першапачатковая музеефікацыя помніка, а над раскопам зроблены часовы павільён. Тады помнік наведалі сакратары ЦК КПБ, нават сыходзілі ў падзямеллі і былі вельмі ўражаныя тым, што пабачылі. Гэта паспрыяла рашэнню аб захаванні «Верхняга гораду». У 1988 годзе, паводле пастановы СМ БССР, комплекс бернардзінскага кляштару, у тым ліку і гандлёвыя рады, атрымаў статус помніка архітэктуры і археалогіі рэспубліканскага значэння. Былі распрацаваны праектныя прапановы па аднаўленні страчанай часткі помніка з умовай абавязковага захавання аўтэнтычных падземных канструкцыяў. Але калі на пачатку 1990-х гадоў найбольш каштоўная частка Верхняга гораду была перададзена АТ «Стары Менск», стаўленне да спадчыны кардынальна змянілася.

Паводле замовы АТ «Стары Менск», творчая майстэрня архітэктара А.Вараб'ёва распрацавала праект аднаўлення помніка. Паводле праекту, гандлёвыя рады бернардзінскага кляштару ігнараваліся як помнік гісторыі, архітэктуры і археалогіі. Прапанавалася цалкам знішчыць захаваныя аўтэнтычныя падземныя часткі, даследаваныя спецыялістамі і часткова музеефікаваныя яшчэ ў 1978 годзе, а таксама манастырскія могілкі XVII-XVIII стагоддзяў. Праект А.Вараб'ёва быў ухвалены старшынём Камітэту па ахове гістарычна-культурнай спадчыны Д.Бубноўскім, а таксама Камітэтам архітэктуры Мінгарвыканкаму (29.10.1997 г.).



Фота Ул.ШЛАПАКА

У канцы лютага 1998 году АТ «Стары Менск» радасна паспяшала распачаць знішчальную працу. Толькі дзякуючы пратэстам інтэлігенцыі руйнаванне ўдалося спыніць. Пракуратура Мінску правяла праверку і накіравала афіцыйнае папярэджанне дырэктару АТ «Стары Менск» М.Вадап'янаву.

Інстытут гісторыі НАН Беларусі накіраваў у Міністэрства культуры і Мінгарвыканкам ліст, які падпісаў дырэктар інстытуту і каардынатар аддзелу археалогіі доктар гістарычных навук А.Калечыц: ***«Інстытутам гісторыі ў 1998 годзе ўжо былі распрацаваны прапановы, якія павінны забяспечыць належнае вывучэнне і захаванне помніка, і за № 105-2/310 дасланы ў адпаведныя інстанцыі. У прыватнасці:***

***...на месцы былых раскопкаў грунт неабходна распрацоўваць уручную, пакуль не будуць выяўлены абрысы захаваных канструкцый. Толькі пасля гэтага расчыстку ўнутры некаторых памяшканняў можна выконваць з дапамогай тэхнікі пад наглядам археолагаў;***

***пасля поўнага даследавання неабходна вырашыць пытанне аб захаванні, кансервацыі і музеефікацыі мураваных канструкцый XVII–XIX ст., якія ўяўляюць значную навуковую і гісторыка-культурную каштоўнасць;***

***пры правядзенні археалагічных даследаванняў і земляных работ на тэрыторыі былых манастырскіх могілак XVII ст. прадугледзець перазахаванне парэшткаў.***

***Лічым неабходным пацвердзіць, што пакуль усе пералічаныя ўмовы, якія павінны забяспечыць належнае вывучэнне і захаванне помніка, не будуць выкананы, будаўнічыя работы па аднаўленні страчанай часткі гандлёвых радоў праводзіць нельга».***

Але старшыня Камітэту па ахове гістарычна-культурнай спадчыны Д.Бубноўскі нават не адказаў на гэты ліст. Праект не быў нават разгледжаны на Навукова-метадычнай радзе пры Камітэце па ахове спадчыны, як гэта патрабуе заканадаўства па ахове помнікаў гісторыі і культуры.

Напачатку сакавіка гэтага году АТ «Стары Менск» пачало канчатковае знішчэнне помніка паводле дакументацыі 1997 году. Ужо разбурана большая частка аўтэнтычных канструкцый падземных памяшканняў гандлёвых радоў, захаваныя фрагменты муравана агароджы кляштару і іншыя археалагічныя помнікі. Знішчана вялікая колькасць гістарычных манастырскіх пахаванняў, а парэшткі гістарычных асобаў, косткі, чарапы вывезены на сметнік. Знішчэннем помнікаў кіраваў на месцы ўжо былы дырэктар акцыянернага таварыства сп.Вадап'янаў.

Самае ж дзіўнае ў гэтай змрочнай гісторыі тое, што дазвол на правядзенне будаўнічых работ, што прывялі да знішчэння унікальных помнікаў культуры, падпісаў ужо не сумнавядомы Бубноўскі, а новае кіраўніцтва Дэпартаменту, на розум і сумленне якога ўскладалі спадзяванні і гісторыкі, і аматары захавання помнікаў мінуўшчыны, але якое, роўна як і папярэднік, працягвае лабіраваць інтарэсы АТ «Стары Менск».

**Уладзімір ДЗЯНІСАЎ**

# Італія: апантаныя эрасам

*Гэткае здараецца не толькі ў кінафільмах і не толькі з галівудскімі зоркамі: залежнасць ад сексу сустракаецца і ў звычайным жыцці простых людзей. Каля 5% мужчын і 3% жанчын пакутуюць на эратычную псіхапаталогію.*

Такія першыя звесткі пра гэтую з'яву, якая раней не вывучалася ў Італіі (дый у шмат якіх іншых краінах). Іх абнародуюць гэтымі днямі ў Палерма на канферэнцыі па новаадкрытых залежнасцях асобы. Вось прыкладнае аблічча таго, хто адчувае воўчы голад у адносінах да



сексу: часцей за ўсё гэта мужчына ў веку сарака гадоў, добры прафесіянал, які ўва ўсім астатнім, апроч эротыкі, вядзе цалкам нармальнае жыццё.

«Першыя выпадкі выразна выявіліся каля двух гадоў таму, – тлумачыць вучоны, які праводзіць першае ў Італіі даследаванне ў гэтай галіне, псіхіятр Таніна Кантэлмі, прэзідэнт італьянскай асацыяцыі даследаванняў па кагнітыўна-міжасабовай псіхатэрапіі. – У нашу эпоху, калі так шмат гавораць пра імпатэнцыю і цяжкасці дасягнення аргазму, існуюць і некаторыя формы імпульсіўнай сексуальнасці, неадольнага імкнення, скіраванага на экстрэмальны секс».

Напрыклад, мы зафіксавалі выпадак, калі адзін вельмі паспяховы бізнесмен прызначаў сексуальныя спатканні падчас сваіх найважнейшых дзелавых перамоваў, пры гэтым яму даводзілася нечакана для партнёраў знікаць і ставіць сябе ў надта рызыкоўнае становішча. Крайні выпадак адчайнага пошуку экстрэмальных формаў сексу прадэманстраваў мужчына, які плаціў жрыцам любові патройны тарыф за магчымасць мець неабароненыя кантакты, свядома рызыкуючы заразіцца, напрыклад, СНІДам.

«Сексуальная залежнасць, – кажа Кантэлмі, – гэта хваравітае стаўленне да сексу, праз якое чалавек пераадольвае стрэс, пазбягае негатыўных ці балючых пачуццяў, а таксама інтымных стасункаў, якія ён не здольны наладжваць». Сексуальныя адносіны «робяцца галоўнай патрэбаю, дзеля якой можна ахвяраваць усім астатнім, уключаючы нават блізкіх людзей, якія лічацца проста сродкам». Сексуальна залежныя людзі страчваюць кантроль над сваёй здольнасцю казаць «не» і рабіць выбар, іх сексуальныя паводзіны – гэта частка цыклу іх думак, пачуццяў і дзеянняў, якія яны болей не ў стане кантраляваць.

Шмат хто з «сексаманаў» пакутуе ў дадатак і ад іншых формаў залежнасці, напрыклад, ад наркотыкаў (94%), непераадольнага захаплення працай (28%), неадчэпнай патрэбы рабіць пакупкі (26%), азартных гульняў (5%). Некаторыя пакутуюць на адсутнасць апетыту (32-38%), перапады настрою (62%), дэпрэсію (15-62%), сацыяфобію (47%).

Частка сексаманаў апантаная так званым «кібер-сексам». Але тут гаворка ідзе пра меншыню (6–8%) тых, хто карыстаецца інтэрнэтам. Ім ад 33 да 50 гадоў, і гэта галоўным чынам мужчыны (79% супраць 21% жанчын), гетэрасексуалы (63% супраць 16% бісексуалаў і 21% гомасексуалістаў).

Палова выпадкаў прыпадае, як ні дзіўна, на жанатых (53%), адзінокіх крыху меней (47%), а вось разведзеных усяго 14,5% (магчыма, іх ратуе набыты негатыўны вопыт). «Залежныя ад віртуальнага сексу, – тлумачыць Кантэлмі, – гэта тыя, хто карыстаецца камп'ютэрам з мэтай пошуку сексуальнага матэрыялу болей за 11 гадзін на тыдзень, часцей за ўсё гэта 35-45 гадзінаў сувязі». Каля 80% жанчын і 33% мужчын сцвярджаюць, што іх *on-line* сувязі прывялі да рэальных сексуальных кантактаў.

Хоць большая частка парнаграфічнага матэрыялу забіраецца з сеткі ў рабочыя гадзіны, залежныя ад віртуальнага сексу выходзяць у інтэрнэт у асноўным уначы, страчваюць гадзіны сну і адпаведна працаздольнасць на наступны дзень. Негатыўныя наступствы адбіваюцца на сям'і, калі партнёр «сексамана» адчувае сябе кінутым і няздольным «цягацца» з *on-line* супернікам. Наступствы цяжкія і для дзяцей, якім выпадае прысутнічаць пры няспынных сварках бацькоў на падставе сексу.

**La Repubblica, Італія**

# Горад, дзе я хацеў жыць

*Толькі сёлетняй вясной я, пражыўшы чвэрць стагоддзя, упершыню выправіўся з Мінску ў Гародню. Збіраўся ва ўтрапёным стане: яшчэ са школьнага веку мне здавалася, што менавіта ў гэтым горадзе Беларусі я хацеў бы жыць.*

Бо надта ж даспадобы мне былі гарадзенскія старыя вулкі, касцёлы і замкі, пабачаныя на розных фота. Да ўсяго здавалася, што ў малой – у параўнанні з 2-мільённай (разам з гасцямі) сталіцай – Гародні можна знайсці урбаністычную ўтульнасць.

Знаёмая гарадзенка параіла з'ездзіць у ейны родны горад пазней, тады, калі там будуць квітнець каштаны. Маўляў, «Гародня – места каштанаў». Каштанавага квету я не дачакаўся, але і без яго ўпадабаў горад на Нёмане. Фотаўражанні спраўдзіліся. Але жыць у Гародні я перахацеў: над архітэктурным антуражам узялі верх сталічныя побытавыя і культурніцкія перавагі штодзённага жыцця.

Як надумаеце выбрацца ў Гародню, дык гэтая вандроўка абыдзецца досыць танна. Дарога цягніком у плацкартным вагоне – каля 10 тысяч рублёў туды і назад. Купэ даражэйшае на 5 тысяч рублёў. Я, напрыклад, пашкадаваў, што не паехаў з камфортам. Бо ў плацкарце праз суседзяў нацярпеўся досыць. Імі былі нейкія два «зэкі», што толькі вызваліліся з-за кратаў у Мінску і ехалі дахаты ў Гародню. Не, крымінальную сутнасць сваю яны не выяўлялі, наадварот, вельмі лагодныя былі, нават калі з рыльца распілі пляшку настойкі. Але як мінімум паўвагона нацярпелася ад іхных шкарпэтак (не адзін месяц дзядзькі сядзелі), даруйце за натуралізм. Зрэшты, гэта вандроўкі не сапсавала.



Фота Ул.ШЛАПАКА

Тэатр лялек

Гатэльны сэрвіс Гародні адмоўных эмоцыяў не прынёс. Ноч у гасцініцы «Амега» для грамадзянаў Беларусі каштуе 6,5 тысячы рублёў. Надта нядорага, бо гатэль знаходзіцца ў цэнтры гораду, каля універсітэту. І нумар не абы-які: з душам, прыбіральняй ды тэлевізарам з «дыстанцыяй». Каб больш-менш паглядзець Гародню, турысту дастаткова паўтара дня з адным начлегам, якія, плюс дарога, вам абыдуцца ў 10 даляраў. Дадайце сюды яшчэ дробныя выдаткі на музеі і харчаванне. Тут ужо ўсё залежыць ад таго, колькі і што вы любіце ды прызвычаіліся есці, хоць пры патрэбе эканоміі грошай можна абмежавацца і ссабойкай. У выніку ўся вандроўка вам абыдзецца прыкладна ў 15-20 даляраў.

Мапа гораду вам не патрэбная – у спальных раёнах са шматпавярховікамі, як і паўсюдна, няма чаго рабіць, а ў гістарычным цэнтры не заблукаеш, заўсёды зарыентуешся па дахах Фарнага касцёлу ці па раскірачынах драмтэатру. Нягледзячы на тое, што часта яго выяву выдаюць за візітоўку Гародні – напрыклад, калі паказваюць на Беларускім тэлебачанні прагноз надвор'я, – мяне будынак Гарадзенскага абласнога тэатру драмы каб вельмі ўжо, дык не ўразіў: на нейкае насякомае-мутанта выдае.

У гарадзенскіх замках каралёў Рэчы Паспалітай і Вялікага княства Літоўскага над бруднымі вясновымі водамі Нёмана лёгка ўяўляеш сам сябе асобай блакітнай крыві, што шпацыруе па алеях у роздуме: як там на франтах, як даць адлуп маскоўскім войскам. А мо проста марыць, як на заўтрашнім паляванні ён падстрэліць курапатку, ці вырашае, якое віно сёння ўвечары будзе піць. Подзіў у вачах, калі перад табой самі расчыняюцца дзверы ў касцёл, адхланне ад мінскага шуму і мітусні ў прагулянках па ціхіх і вузкіх вулках з адна- і двухпавярховымі і толькі зрэдку вышэйшымі дамамі. Трацiну з іх трэба рэстаўраваць. Але ж гэта файна, калі ёсць што рэстаўраваць.

Куды лепшы ў параўнанні з мінскім у Гародні заапарк, што месціцца цераз дарогу ад чыгуначнага вакзалу, – з вярблюдам, тыграмі, кракадзілам, зубрам, нарэшце, сланом. Тым самым, пра якога ведае ўся краіна, бо ён сур'ёзна хворы.



Фота Ул.ШЛАПАКА

Драматычны тэатр

Даўно заўважыў, што калі турыстам гуляеш па чужых гарадах, то табе здаецца, што тут усё насельніцтва, як і ты, адпачывае, нікуды не спяшаецца, нічога не робіць, а толькі дзівуецца. А як уявіць сабе, што ты тут не на адзін, не на два дні, не на тыдзень, а збіраешся жыць у гэтым горадзе стала! Я ўявіў сябе жыхаром Гародні і зразумеў, што Мінск на яе не прамяняю, нават калі перавезці туды маіх родных ды сяброў, некалькі любых вуліц і дрэваў. Проста ў правінцыі значна менш цікавых падзей і людзей. Паводле азначэння. Хоць бы таму, што ўвогуле жыхароў тут амаль у 10 разоў меней, чым у Мінску. Меней тэатраў, музеяў і канцэртаў.

І нарэшце: я ехаў у Гародню яшчэ і з надзеяй папіць тут польскага піва – *«EB»*, якое ўпадабаў у Варшаве. Усё ж Польшча пад бокам. Але дзе там?! Ёсць толькі гарадзенскае, пакаштаваўшы якога ў Мінску, я ягоным сталым спажыўцом не зрабіўся; лідскае, у якім я дома таксама расчараваўся, мінская «Аліварыя» ды нялюбая расійская «Балтыка». Адвёў душу, знайшоўшы бар ад сталічнага «Ракаўскага бровару», дзе выпіў «Грашовага». Са шматлікімі прадуктамі, якіх багата ў Мінску, тое самае – адно расстройства.

Прыканцы трохі пасмяшыў гарадзенскі чыгуначны вакзал. Нядаўна вычытаў, што ў Сінгапуры ў аэрапортах пачалі ладзіць шоу: пасажыры бяруць у іх удзел і такім чынам бавяць час, чакаючы сваіх самалётаў. Можна нават грошай зарабіць. На гарадзенскім чыгуначным вакзале сваё шоу. У спецыяльна адгароджаным месцы тут паставілі мяккія канапы, дзе пасажыры могуць пасядзець, паглядзець тэлевізар. Але ж, як той казаў, за прагляд грошы бяруць. Паглядзець БТ ці *ОРТ* на вакзале ў Гародні каштуе 200 рублёў. Між тым квіток у гісторыка-археалагічны музей, што знаходзіцца ў каралеўскім замку, каштуе ўсяго 160 рублёў.

**Кірэй МАНУЙЛА**

# Астралагічны прагноз

## ад Веранікі Кудраўцавай на 25 – 31 сакавіка

***Астрапрагноз адлюстроўвае агульны прыродны сацыяльна-псіхалагічны фон накшталт прагнозу надвор'я. Індывідуальнае прагназаванне грунтуецца на дакладных звестках: улічваецца дзень, месяц, год, месца і час нараджэння чалавека.***



**АВЕН.** Нехта спрабуе вас кантраляваць, правяраць ці ставіць вам палкі ў колы. Зрэшты, нядаўняя хвароба таксама можа яшчэ патрымаць арганізм пад кантролем. Вам засталося годна паставіць кропку ў такіх катаклізмах і пазбавіцца іх надоўга. Бліжэй да выходных нехта адкрые для сябе ці добра ацэніць цуд вечных тэмаў і трывалых адносінаў.



**ЦЯЛЕЦ.** Найлепшы метад праверыць сапраўднасць сяброўскіх адносінаў – фінансавыя ўзаемазалікі. Перыяд няпэўнасці сыходзіць у мінулае. Калі вы абралі кампетэнтнага адваката ці самі знайшлі прыёмы запэўнівання, то цалкам заслужыце ўзнагароду і падтрымку. Часцей сустракайцеся з людзьмі тэт-а-тэт у пятніцу і суботу, нехта нават выпадкова зможа дапамагчы з атрыманнем працы.



**БЛІЗНЯТЫ.** Больш не прыйдзецца бадзяцца ў няпэўнасці, вырашаецца пытанне з працай. Самыя важныя жыццёвыя пытанні пажадана афармляць дакументальна ў другой палове тыдня. Для кагосьці магчымая вандроўка ва ўжо знаёмыя мясціны, паспяховае вырашэнне юрыдычных нюансаў. У пятніцу і суботу можна збіраць людзей пад сцягам адной ідэі.



**РАК.** Асцярожней з юрыдычнымі пытаннямі, уважліва чытайце дакументы, падпісвайце іх у другой палове тыдня. Заканчваецца важны перыяд праверкі асабістай ідэалогіі, асабліва ў дачыненні да замежнікаў, закону, а таксама самавызначэння ў навучанні. Верагодна, адродзіцца мінулы праект, звязаны з прафесійнай дзейнасцю. Не бойцеся пераменаў у другой палове тыдня.



**ЛЕЎ.** Магчымыя праблемы даўгоў, «рамонту» адносінаў з сябрамі вырашаюцца і выводзяць са стану няспыннага стрэсу. Важнасць маюць факты і дакументы. Вы будзеце рады сустрэцца з чалавекам, з якім калісьці былі звязаныя напалеонаўскія планы. Не выключана, што ў пятніцу ці суботу вы зноў знойдзеце супольныя зацікаўленні, адновіце ўражанне адзін ад аднаго.



**ПАННА.** Вы атрымаеце пэўныя адказы на ўсе пытанні, што тычацца сужэнца ці каханка. Адбываецца выразнае ўсведамленне мэты і задачаў дзейнасці. Ёсць сэнс даверыцца дарослым дзецям, якія могуць прыкрыць у нялёгкія часіны. На працы з'яўляецца новы супрацоўнік, які прыцягвае ўсеагульную ўвагу, або акрэсліваецца вакантная пасада.



**ШАЛІ.** Стане канчаткова ясна – ці атрымаеце вы падтрымку ў працы з-за мяжы або ад салідных структураў, ці не. Лепей падпісваць дакументы пасля чацвярга. Верагодна, вы вернецеся да трохі забытага творчага праекту. Для кагосьці творчы працэс асацыюецца з каханнем і спадкаемцамі, і тут можна папрацаваць на славу.



**СКАРПІЁН.** Нічога няма таемнага, што не выйшла б на яву, асабліва ў асабістым жыцці і ў адносінах дзяцей. Рабіце высновы і рухайцеся далей. У доме чакаецца пацяпленне атмасферы, зварот да традыцыяў, уладкоўваецца быт. Нехта жадае пазнаёміць вас з магчымым спадарожнікам жыцця бліжэй да выходных – не адмаўляйцеся. Не выключана ўдзячнасць за мінулую працу.



**СТРАЛЕЦ.** Вырашаюцца самыя істотныя пытанні жыццезабеспячэння і хатняга ўкладу. Перамовы ці атрыманне доўгачаканых звестак дазваляюць вызначыцца ў далейшых высілках і ўзаемаадносінах з бацькамі і блізкімі. Вы гатовы ўзнавіць старыя асабістыя адносіны, а падстава – выпадковая сустрэча ці размова бліжэй да выходных.



**КАЗЯРОГ.** Заўважаецца выйсце ў лабірынце стасункаў, зняцце канфліктаў з суседзямі, нейтралізацыя плётак ці лжывых абвінавачанняў. Атрыманне пэўнай інфармацыі, дакументаў здымае крызіс няпэўнасці ў другой палове тыдня. Вашая пісьмовая праца атрымае ацэнку. Матэрыяльнае становішча выраўноўваецца, вы адчуваеце глебу пад нагамі і здабываеце спакой.



**ВАДАЛІЎ.** Будзе абсалютна зразумела, што рабіць у фінансавых адносінах з каханым чалавекам ці дзіцем. Пажадана, каб пытанне з дакументамі, заявамі ці іх выняццем было цалкам вырашана ў чацвер. Не выключана ўзнаўленне старых сувязяў і прыхільнасцяў. У пятніцу будзьце больш авантурныя, не дазваляйце, каб за вашай спінай вырашаліся нейкія пытанні.



**РЫБЫ.** У вас цяпер усё, што адбываецца, – вынік мінулых дзеянняў, выпадковасцяў няма. Ёсць пра што падумаць для далейшай арганізацыі жыцця. Хоць рашэнне вы ўжо практычна прынялі, засталося дачакацца нейкіх папераў, адказаў на заявы. Няблага было б у нядзелю сабраць сямейнікаў і пагаварыць пра размеркаванне абавязкаў ці маёмасці.

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1137 Нумар падпісаны ў друк 24/03/2002 (15:00) Наклад – 7.760